# ЛіМ ЛІТАРАТУРА і МАСТАЦТВА

24 СТУДЗЕНЯ 2003 г. № 4/4190 КОШТ 500 РУБ.


АНОНСІ

**МЫ — БЕЛАРУСЫ!**

*"Няхай акцыя па стварэнні кнігі "Мы — беларусы!" стане агульнанацыянальнай, агульнанароднай!"*

5

***І яна ажыла***

**Урывак з рамана "Мінск і воран, Парыж і здань" Анатоля Казлова**

9-14-15



***"Грай, мая жалейка" —***

**творы вучняў СШ № 19 імя Янкі Купалы г. Мінска**

13

ТЭАТР

# НАНОЎ ДА СЛОВА, ДА ДЗЕІ

*Нарэшце адбылося. Наладжанае пяць гадоў таму супрацоўніцтва беларускіх тэатраў з Інстытутам Гётэ ў Мінску атрымала далейшы працяг — у сярэдзіне снежня 2002 года пры падтрымцы Міністэрства культуры адбыўся ІІ Фэст сучаснай нямецкамоўнай драматургіі. Першы такі фестываль, якому папярэднічалі сцэнічныя чытанні п`ес нямецкамоўных аўтараў, быў праведзены ў лістападзе 1998 года ў сценах Тэатра беларускай драматургіі. Мінскія і маладзечанскія сцэнічныя чытанні 1999 і 2001 гадоў прапанавалі беларускім рэжысёрам новы драматургічны матэрыял, выбраны Інстытутам Гётэ сярод лепшых нямецкіх п`ес апошняга часу. І вось новая сустрэча...*

11





Янка СІПАКОЎ

# ЗАКОН РАЎНАВАГІ ЯНКІ СІПАКОВА

*"Падарожжа" Уладзіміра САЛАМАХІ па старонках нарыса лаўрэата Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы празаіка, паэта, перакладчыка і публіцыста Янкі СІПАКОВА "Акно, расчыненае ў зіму"*

чытайце на стар. 4-5

## КОЛА ДЗЁН

**На гэтым тыдні ў Мінску адбылася сустрэча прэзідэнтаў Беларусі і Расіі Аляксандра Лукашэнкі і Уладзіміра Пуціна. Лідэры дзвюх краін узялі ўдзел у пасяджэнні Вышэйшага Дзяржаўнага Савета Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі. У ходзе сустрэч было вызначана, што далейшы рух наперад павінен базіравацца на паслядоўным поўным выкананні дасягнутых раней дамоў, зафіксаваных у Дагаворы аб стварэнні Саюзнай дзяржавы. Аляксандр Лукашэнка адзначыў, што поспех беларуска-расійскай інтэграцыі напрамую залежыць ад эфектыўнасці намаганняў па фарміраванні адзінай эканамічнай прасторы. Прэзідэнт Расіі Уладзімір Пуцін у сваім выступленні падкрэсліў, што ў апошні час было шмат дыскусій пра шляхі далейшага будаўніцтва Саюзнай дзяржавы, аднак Расія і Беларусь заўсёды былі і застаюцца адзіныя ў галоўным: курс на стварэнне Саюзнай дзяржавы — гэта стратэгічны напрамак расійска-беларускага ўзаемадзеяння. Важным этапам стварэння адзінай эканамічнай прасторы з'яўляецца ўвядзенне грашовай разліковай адзінкі ў выглядзе расійскага рубля. Згодна з Дагаворам аб стварэнні Саюзнай дзяржавы, гэта павінна адбыцца з 1 студзеня 2005 года.**

### *ЛІЧБА ТЫДНЯ*

1 мільярд рублёў было выдзелена ў мінулым годзе спецыяльнымі фондамі Прэзідэнта на падтрымку культуры. Грошы былі выкарыстаны на выплату спецыяльных прэмій, стварэнне музейных экспазіцый, набыццё твораў культуры і мастацтва, музычных інструментаў і матэрыяльна-тэхнічных сродкаў, выданне літаратурных твораў, ажыццяўленне творчай і выставачнай дзейнасці і інш.

### *ПАРТНЁРЫ ТЫДНЯ*

Не першы год Расійская Федэрацыя з'яўляецца для нашай краіны асноўным эканамічным і гандлёвым партнёрам, на долю Расіі ў студзені-лістападзе 2002 года прыпадала 58,1 працэнта агульнага аб'ёму знешняга гандлю Беларусі. За гэты час тавараабарот склаў 8850,4 млн долараў. У параўнанні з аналагічным перыядам 2001 года ён павялічыўся на 4,2 працэнта. Амаль у два разы зменшылася ўдзельная вага бартэрных аперацый у аб'ёме экспарту ў Расію.

### *ЮБІЛЕЙ ТЫДНЯ*

Споўнілася 65 гадоў з дня ўтварэння Віцебскай вобласці. Дакументы сведчаць, што 15 студзеня 1938 года сесія Вярхоўнага Савета СССР зацвердзіла Пастанову ЦКВ БССР аб утварэнні ў рэспубліцы пяці абласцей, у тым ліку Віцебскай. На сённяшні дзень на Віцебшчыне жыве 1 млн. 348 тысяч чалавек. У складзе вобласці 21 раён, 19 гарадоў, 28 гарадскіх пасёлкаў, 248 сельсаветаў, 6566 населеных пунктаў. Па аб'ёме прамысловай вытворчасці Віцебская вобласць займае чацвёртае месца ў краіне.

### *РАШЭННЕ ТЫДНЯ*

Урад нашай краіны прыняў рашэнне аб павышэнні з 1 студзеня тарыфнай стаўкі 1 разрада для бюджэтнікаў і работнікаў арганізацыі, што карыстаюцца дзяржаўнымі датацыямі, з 24000 да 25000 рублёў. Памер жа базавай велічыні застаўся нязменным — 12000 рублёў.

### *АДНАЎЛЕННЕ ТЫДНЯ*

У нашай краіне сярод творчай інтэлігенцыі шмат лаўрэатаў прэміі ЦК ЛКСМБ. Са знікненнем камсамола была знікла і прэмія, але паколькі цяпер маладзёжная арганізацыя ГА "БРСМ" лічыць сябе прамым нашчадкам камсамола, то аднаўляецца і прэмія. Да канца студзеня будуць прыняты адпаведныя дакументы. Пакуль што не вызначаны памер будучай прэміі, але назва прыкладная ўжо ёсць — "прэмія імя Максіма Багдановіча".

### *РАДЫЁСТАНЦЫІ ТЫДНЯ*

Вяшчанне расійскіх радыёстанцый на тэрыторыі Беларусі скарачаецца. Замест іх будуць транслявацца праграмы беларускіх радыёстанцый. Так з пачатку сёлетняга года не будзе ажыццяўляцца рэтрансляцыя праграм расійскіх радыёстанцый "Маяк"+"Голос России" і "Юность" на УКХ станцыях дыяпазону 65-74 МГц. Перадатчыкі, якія выкарыстоўваліся для рэтрансляцыі праграм радыёстанцыі "Маяк", перадаюцца для трансляцыі станцыі "Сталіца". А перадатчыкі "Юності" перадаюцца для трансляцыі абласнога радыёвяшчання.

### *ПАДРОБКІ ТЫДНЯ*

Фальшываманетчыкі не спяць і гэта пацвярджаецца тым, што ў нашай краіне з'явіліся фальшывыя банкноты еўра вартасцю 50 і 100 еўра. Па апошніх звестках, ужо канфіскавана каля 30 такіх банкнотаў. Збыт падробак еўра зафіксаваны ў Мінску, Брэсце, Гомелі, Гродне, Лідзе, Мар'інай Горцы, Маладзечне і іншых гарадах.

### *ПЕРСПЕКТЫВА ТЫДНЯ*

На сённяшні дзень сітуацыя з захворваннем грыпам у нашай краіне лічыцца неэпідэмічнай. Аднак па прагнозах медыкаў у канцы студзеня і пачатку лютага чакаецца змешаная эпідэмія вірусаў А і В. Кожны год грыпам у нас хварэе кожны трэціпяты. З-за захворвання наша краіна не далічваецца 240 мільёнаў долараў.

**КАНТАКТЫ**

# СУСТРЭЧЫ Ў МАСКВЕ

Паступова і планамерна Саюз беларускіх пісьменнікаў аднаўляе раней страчаныя сувязі з творчымі літаратарскімі арганізацыямі краін-суседзяў — Расіі, Украіны, Польшчы і інш. 16-17 студзеня па запрашэнні кіраўніцтва Міжнароднай супольнасці пісьменніцкіх саюзаў (МСПС) дэлегацыя СБП наведала Маскву. У склад дэлегацыі ўваходзілі старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў Алесь Пашкевіч, першы намеснік старшыні СБП Барыс Пятровіч і дырэктар Беллітфонду Алесь Камароўскі. Падчас візіту адбыліся сустрэчы з кіраўнікамі большасці пісьменніцкіх саюзаў Расіі. Размова ішла пра неабходнасць развіцця і пашырэння творчых сувязяў.

Старшыня выканкама МСПС Сяргей Міхалкоў расказаў пра сітуацыю, што склалася сёння ў Расіі, дзе ў пісьменніцкіх колах адбыўся раскол, і цяпер літаратары, паводле сваіх перакананняў і творчых прынцыпаў, уваходзяць у пяць розных арганізацый МСПС быў утвораны адразу пасля распаду СССР і стаў правапераемнікам Саюза пісьменнікаў СССР. Адным з сузаснавальнікаў МСПС быў і Саюз беларускіх пісьменнікаў. Сёння МСПС з'яўляецца адной з буйнейшых пісьменніцкіх арганізацый, якая падтрымлівае плённыя сувязі з большасцю Саюзаў пісьменнікаў краін СНД.

Адбыліся таксама сустрэчы з кіраўнікамі Саюза расійскіх пісьменнікаў Святланай Васіленкай, Саюза пісьменнікаў Расіі Валерыем Ганічавым, Саюза пісьменнікаў Масквы Рымай Казаковай, кіраўніцтвам Міжнароднага літаратурнага фонду. Расійскія сябры падзяліліся сваімі праблемамі і клопатамі, расказалі пра сённяшні стан расійскай літаратуры. Размова ў асноўным ішла аб праблемах пашырэння ўзаемасувязяў і праблемах творчых. Бо, трэба адзначыць, на сёння ўсе расійскія творчыя саюзы захавалі за сабою сваю ранейшую ўласнасць — дамы літаратараў, рэстараны, кавярні, гасцініцы — якія працуюць цяпер на ўмацаванне эканамічнай базы і незалежнасці саюзаў. Расійскія сябры былі вельмі здзіўленыя, што СБП на сёння не мае сваёй ранейшай уласнасці, а кіраўніцтва СБП вымушана працаваць на грамадскіх пачатках.

Падчас сустрэч былі зроблены папярэднія дамоўленасці аб пашырэнні творчых кантактаў, правядзенні ў 2003 годзе сумесных мерапрыемстваў, супольных выдавецкіх праектаў, найперш з МСПС і Саюзам пісьменнікаў Расіі.

**ІМПРЭЗЫ**

# ХОЧАЦЦА Ў ФРАНЦЫЮ...

***У Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі жыццё віруе: адбываюцца канцэрты сваіх ды заезджых выканаўцаў (студэнтаў і настаўнікаў), лекцыі ды канферэнцыі па пытаннях музычнай культуры. А нядаўна прайшла яркая і насычаная імпрэза, якая аб'яднала ў агульнай тэме "Мастацтва Францыі XVII стагоддзя" розныя віды мастацтва.***

Дзякуючы намаганням загадчыцы канцэртным аддзелам БАМ Элеаноры Скуратавай і пры падтрымцы Пасольства Францыі ў Беларусі спраўдзілася даўняя мара — ажыццявіць маштабны музычна-культуралагічны праект, дзе арганічна спалучыліся б розныя віды мастацтва.Задача, пастаўленая арганізатарамі ды рэжысёрамі праекта, была выканана на вышэйшую адзнаку! Лепшы доказ таго — прыўзнятасць і зацікаўленасць, што адчувалася ў зале з першай хвіліны канцэрта. Кожны адчуў сябе арганічнай часткай гэтай вечарыны і на нейкі час ўявіў атмасферу старадаўняй Францыі.

Высокі пафас, дух эпохі XVII ст. панаваў у зале амаль дзве з паловай гадзіны. Лекцыя-канцэрт адкрыла паведамленне Ізабэлі Мальво, выкладчыцы Еўрапейскага гуманітарнага універсітэта. Ізабэль распавядала па-французску пра паэзію, наогул — літаратуру Францыі, што фарміравала этычныя нормы тагачаснага грамадства, вучыла добраму густу, прыгажосці мыслення, сумленнасці і высакароднасці. Былі акрэслены і звычаі, традыцыі, правілы паводзін у грамадстве Францыі XVIIст. Перад намі паўстала краіна, дзе побач суіснавалі далікатнасць і распуста, рэлігійныя догмы і сацыяльна-палітычныя эксцэсы, прыгнёт, убогасць сялянства і пышнасць, раскоша каралеўскай улады.

Акрамя таго, была выдатная магчымасць у гэты вечар паслухаць вершы французскіх паэтаў-класіцыстаў на мове арыгінала. У выкананні студэнтаў Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага універсітэта Аляксандра Чарнецкага, Юліі Мікалаевай, Вольгі Доўгань, Ірыны Батурко, Алы Паборцавай прагучалі ўрыўкі з твораў Расіна, Карнэля, Лафантэна, Паскаля і інш. Натхнілі і ўсхвалявалі карціны французскіх жывапісцаў XVII ст., рэпрадукцыі работ Пусэна, Ларэна, Вуэ, Шампэня ўзбагацілі наша ўяўленне сваёй багатай фарбавай палітрай, зместам. Уразілі сваёй раскошай і прыгажосцю разнастайныя палацы, сaборы, паркі, беламармуровая скульптура Францыі XVII ст. прадстаўленыя імёнамі знакамітых тагачасных архітэктараў і скульптараў Ленотра, дэ Броса, Лево, Жырардона, Цюбі, Пюжэ і інш. Пра выяўленчыя мастацтвы Францыі распавяла вядомы спецыяліст Ірына Ялатамцава.

Пра тое, як развівалася музычнае мастацтва Францыі XVII ст., гаварыла аспірантка БАМ Наталля Кавальчук. У французскай музычнай культуры таго часу адбываліся значныя мастацкія працэсы: з'явілася першая нацыянальная сур'ёзная опера, быў пабудаваны оперны тэатр у Парыжы. У Францыі тады працавалі вялікія кампазітары Куперэн, Рамо, Дакэн, Люлі, — стваральнікі першых французскіх опер, балетаў, клавесінных п'ес, ансамбляў, твораў для голасу. Іх музыка і прагучала ў выкананні студэнтаў-вакалістаў, лаўрэатаў розных конкурсаў Тамары Тамашэвіч (канцэртмайстар Таццяна Рыдлеўская); Вячаслава Лесіка (партыя фартэпіяна — Таццяны Ухналёвай). Разнастайныя п'есы кампазітараў-клавесіністаў выканалі Ігар Парфенюк (клавесін), Васіль Галаван (клавесін), Кацярына Каляснова (фартэпіяна), Алена Калтуневіч (флейта), Таццяна Кукель (цымбалы) і Юрый Мяркулаў (гітара).

Слухачы разыходзіліся дадому ўжо каля 10-й гадзіны вечара — задаволеныя, у прыўзнятым настроі.

**Вольга ЛЕЧАНКОВА, студэнтка V курса БАМ**

**УРАЖАННЕ**

# НЕ ЗГУБІЦЕ «ФЛЕЙТУ»! ЧАРАДЗЕЙНУЮ

Нядаўні спектакль "Чарадзейная флейта" ў Нацыянальным тэатры оперы Беларусі прываблівае не толькі музыкай В. А. Моцарта, светлымі, празрыстымі, лірычнымі мелодыямі, але і самім сюжэтам гэтай апошняй оперы кампазітара, яго духоўнага завяшчання. І дзяцей, і дарослых не пакідае абыякавымі непаўторны твор пра любоў і каханне, шчырасць і цнотнасць, дабрыню і справядлівасць. Гэтую прыцягальнасць "Чарадзейнай флейты" раскрыла на мінскай сцэне Маргарыта Ізворска-Елізар'ева.

Пасля доўгага перапынку яна зноў працуе ў оперным і пастаралася зрабіць усё, каб вярнуць пастаноўцы былую свежасць. Удзельнікі спектакля паказалі ўсё самае лепшае, на што здольныя, і ў першую чаргу вывілі свае лепшыя акцёрскія, вакальныя якасці старыя выканаўцы. Уладальнік цудоўнага баса Яраслаў Пятроў (Зарастра) уразіў моцным голасам і велічнасцю вобраза. Вельмі каларыстым, рухавым і вясёлым паўстаў Папагена Аляксандра Кеды. Шмат чаму навучыўся за два месяцы карпатлівай працы над партыяй Таміны Януш Нялепа. Здавалася, што голас яго загучаў больш прыгожа, чыста, упэўнена вызначаўся кожны рух, жэст. Паміна Ганны Гур'евай выклікала сімпатыю сваёй грацыёзнасцю, зграбнасцю, жаноцкасцю, цеплынёй голасу.

Яркі вобраз Царыцы ночы стварыла Алена Шведава. На думку М. Ізворска-Елізар'евай, нашаму тэатру пашанцавала на вакалістку, у якой для выканання партыі Царыцы ночы ёсць сапраўднае каларатурнае сапрана з прыгожым гучаннем верхняга рэгістра.

У партыях першай, другой, трэцяй дам выступіла таленавітая моладзь, стаўку на якую будзе рабіць мастацкае кіраўніцтва тэатра.

Пастаноўка ўспрымаецца ў гармоніі са зместам "Чарадзейнай флейты", звязана з важнымі праблемамі маральнага выхавання, жыццёвага выбару. Напрыклад, у спектаклі адчувальна, як Паміна навучылася самастойна думаць, адрозніваць праўду ад няпраўды, балбатню і грунтоўную размову...

Доўгія, працяглыя апладысменты — лепшая адзнака публікі.

Шкада толькі, што зала ў гэты вечар не была поўная. А "Чарадзейная флейта", цудоўны казачны спектакль, таленавіта пастаўлены і выдатна сыграны, здатны захапіць людзей усіх узростаў, варты падтрымкі ды рэкламы самых масавых СМІ. Ад іх няўвагі да сапраўднага мастацтва наша грамадства церпіць духоўныя страты...

**Вера КРОЗ**

Даўно ўжо не чытаю і нават не праглядваю апазіцыйныя выданні, бо пасля знаёмства з асобнымі іх "матэрыяламі", памятаю, рабілася няўтульна і брыдка на душы.

Не, я не супраць апазіцыйнай прэсы, ніколькі не супраць самой апазіцыйнасці, ні ў якім разе. У тым якраз і адметнасць дэмакратыі, нашага часу, што ўсе мы маем сваё меркаванне, сваю думку, можам і маем магчымасць свабодна выказацца, паспрачацца. Але ж трэба ўмець і прыслухоўвацца да большасці.

чаны, вялікі, мужны народ, і размаўляць з ім патрэбна адпаведна, з павагай і годнасцю...

...Адсоўваю ўбок газету, якая рада друкаваць і перадрукоўваць не толькі зласліва-хлуслівае, але і абразы, і праклёны, забываючы што над усімі намі, урэшце, ёсць перш за ўсё самы высокі суд, суд сумлення, суд Божы.

Адсоўваю газету і задумваюся над іншым: чаму гэта некаторыя нашы апазіцыянеры бачаць пагрозу з Усходу. І застаюцца глухімі і сляпымі да сапраўднай пагрозы, якая нарастае ў свеце і падступае да нашых межаў з Захаду? Глабалізм нівеліруе, падпарадкоўвае, праглынае сапраўды незалежных, самастойных, самабытных, бо "хто не з імі, той супраць іх", як аб'явілі яны. Няўжо нашым "палохальшчыкам" думаецца, што краіны, якія ўвайшлі ці ўваходзяць у НАТА, аўтаматычна становяцца абароненымі і застаюцца незалежнымі? Калі аб першым можна разважаць і спрачацца (а хто, скажыце, на іх збіраецца нападаць? Хто пагражае Чэхіі, Польшчы, Балгарыі, Эстоніі, Літве, Латвіі?), то з другім усё зразумела кожнаму разважліваму чалавеку. Ніякай рэальнай незалежнасці ў такіх дзяржаў не застаецца, яны вымушаны дзейнічаць па загадах з Брусселя або з-за акіяна, заўсёды толькі пагаджацца, далучацца, падпарадкоўвацца. Хіба гэта не пацверджана варварскімі бамбардзіроўкамі Югаславіі? Калі знішчалі масты, дарогі, дамы, фабрыкі, заводы, электрастанцыі, храмы... Хіба гэта не прадэманстравана тым, як прымусілі Чэхію не пусціць афіцыйную дэлегацыю Беларусі, кіраўніцтва якой праводзіць незалежную палітыку, зыходзячы з агульнанародных інтарэсаў, а не групкі палітыканаў ці магнатаў, што гатовы "брацца пад казырок" сусветнаму жандару.... І хіба гэта не пацвярджаецца здзекамі з іракскага народа, імкненнем накласці жорсткую лапу на "чорнае золата" гэтай пакутнай мужнай і гордай краіны?..

Свет палітычна расколаты, свет напалоханы, разгублены перад адсутнасцю ўраўнаважанасці, умацаваннем аднапалярнасці. Ах, як хацелася б на Захадзе, каб "акулы бізнесу" хутчэй прагавіта ўхапілі нашы агульнанародныя багацці, якія, дзякуючы дальнабачнасці кіраўніка нашай дзяржавы застаюцца на службе народу...

За апошнія больш як дзесяць гадоў наш творчы саюз палітызаваўся, губляў аўтарытэт і па сутнасці разбураўся. Што і прывяло, дарэчы, да нечарговага пісьменніцкага з'езду, якому ўдалося вырашыць толькі маленечкую частачку існуючых праблем. І хоць фармальна нібыта ўдалося захаваць адзінства, пазбегнуць зафіксаванага на паперах расколу, аднак унутры ён расколаты, раз'яднаны. Ды ў ім даўно дзейнічае асобнае кола пісьменнікаў, арыентаванае на Захад...

Так, мы ўсе розныя, маем на гэта права, ды справа нарэшце не ў тым, колькі ў нас можа быць пісьменніцкіх саюзаў, адгалінаванняў, груповак... Як бы мы ні хрысцілі адзін аднаго: пэнклубаўцы, дзяржаўнікі, заходнікі, усходнікі, народнікі... — усе мы перш за ўсё грамадзяне Беларусі, беларускія пісьменнікі. І плывём у адной лодцы. У нас адна Радзіма. У нас адны і тыя ж задачы: развіваць літаратуру, ствараць творы, вартыя нашага сягонняшняга чытача, дамагацца пашырэння ўжытку роднай мовы, каб нашы рукапісы не ляжалі на паліцах па 5—10 гадоў... У нас адна мара: бачыць нашу краіну сапраўды заможнай і незалежнай, а народ багатым, адукаваным і шчаслівым. Толькі, пэўна, бачым па-рознаму шляхі да гэтага. Дык у імя вялікіх задач і высокай мары варта было б адмовіцца ад зняваг, абраз і быць разам.

Будзем спадзявацца, што палітычнае размежаванне ды й разгубленасць, уласцівыя і нашаму творчаму саюзу, адступяць перад цяжкай працай. І нам патрэбна не сваркі працягваць, не зласлівіць, а працаваць і працаваць на літаратурнай і грамадскай нівах, робячы ўсё магчымае, каб дапамагаць сваёму народу, сваёй дзяржаве жыць годна і вольна, ды сплочваць свой сыноўні доўг, а таксама і пісьменніцкі, вяртаючы нашаму творчаму саюзу аўтарытэт і павагу ў народзе.

# НАВОШТА ЗЛАСЛІВАСЦЬ, ЗНЯВАГІ, ПРАКЛЁНЫ, "КАЛІ ЎСЕ МЫ РАЗАМ ЛЯЦІМ ДА ЗОР"?..



Пасля развалу былой магутнай краіны, мы зваліліся ў такую яміну, што выбірацца нам з яе вельмі і вельмі няпроста, столькі перашкод, непаразуменняў, праблемаў... Так, не ўсё ў нас добра атрымліваецца. Хапае рознага: і суб'ектыўнага, і аб'ектыўнага... І чыноўнікаў бяздушных, не здольных унікнуць часам у сутнасць самай простай справы, і "дзялкоў" нядобрасумленных, і кіраўнікоў сябелюбівых... Але ж выбірацца з яміны, трэба, і ўсім разам, усім народам, аб'яднаўшы жаданні і намаганні... І выбіраемся ж пакрысе!..

Толькі ж трэба прыслухоўвацца да большасці людзей, да народа, да ягонага выбару, ды жыць у межах законаў: і маральных, і дзяржаўных, і боскіх... Апазіцыйная прэса, як і сама апазіцыя, павінна быць канструктыўнай і разважлівай, здаровай, цвярозай... Як гэта і павінна быць у цывілізаваным грамадстве, у адукаваных людзей. Сапраўдная апазіцыя — не тормаз, не перашкода ў развіцці дзяржавы, у яе руху наперад. Яна павінна дзейнічаць на карысць усяго народа, а не дамагацца сваіх амбіцыйных планаў любой цаной...

І на што разлічваюць супрацоўнікі выданняў, калі тыражуюць пыхлівую зласлівасць, несхаваную зацятасць?..На каго і для чаго разлічаны падобныя рэчы? Што абвяшчаюць? Новы бальшавізм? Зноў — усё дрэнна, усё не так? Зноў — брат на брата? "Хто не з намі — той супраць нас"?..

А слова можа і разбураць, і раз'ядноўваць, і абражаць, і знішчаць... Ці ж гэта патрэбна нам сягоння, калі праблем на ўсіх узроўнях, ва ўсіх зашмат, калі пашыраецца бездухоўнасць, абыякавасць, дзікасць... Калі неабходна яднаць грамадства, намаганні ўсіх да ўзвышэння нашай роднай Беларусі, у тым ліку і праўдзівым, яркім, высокім словам.

Не чытаю зласлівых выданняў, бо выказваю такім чынам сваю пазіцыю да неправўдзівага, пададзенага прадузята, не па-беларуску, хоць і часцяком на беларускай мове. Беларусы заўсёды ганарыліся і будуць ганарыцца сваёй мудрасцю, разважлівасцю, руплівасцю, гасціннасцю... У нас дасведчаны, вялікі, мужны народ...

**Міхась ПАЗНЯКОЎ**



# «НЕ, Я НЕ ЦАР!»



"Ты— цар!", —сцвярджаў галоўны рэжысёр Рэспубліканскага тэатра юнага гледача Андрэй Андросік, звяртаючыся да юбіляра, народнага артыста рэспублікі Міхася Пятрова. — Ты маеш права так звацца!"

Міхася Пятрова прымусілі сесці на белы трон з выявай царскай кароны, узнялі крэсла і пад урачыстую музыку вынеслі яго на сярэдзіну сцэны... Але юбіляр саскочыў з "царскага" крэсла і сказаў: "Не, я не цар!"

На ўрачыстай вечарыне, прысвечанай 65-годдзю славутага ТЮГаўскага акцёра, не раз гучалі хваласпеўныя словы. Нехта (з Нацыянальнага Рускага тэатра) нават сказаў: "Калі б не развалўся Савецкі Саюз, ты (Міхась) даўно быў бы "народны СССР". "Не трэба, — адказаў ТЮГаўскі акцёр, — мне і гэтага (паказаў рукой "па горла") вось як хапае!"

Акцёр Міхась Пятроў ніколі не валодаў капарытнай знешнасцю. Ён не з тых, пра каго кажуць "заваяўальнік сэрцаў" ці "прыйшоў, убачыў, перамог". Яго акцёрскі лёс складаўся не па "галівудскім сцэнарыі". Дзяцінства Міхась правёў у правінцыйным Ваўкавыску, паступіў у БДТМІ (Тэатральна-мастацкі інстытут) на курс Канстанціна Саннікава і Аляксандра Бутакова; потым Любоў Мазалеўская, галоўны рэжысёр ТЮГа, запрасіла яго да сябе і... усё. У ТЮГу ён і правёў усё жыццё, не ўяўляючы сябе без роднага тэатра і сёння.

Калегі, артысты ТЮГа, віншавалі Міхася Пятрова перафразамі з "хіта" пачатку новага стагоддзя — рок-оперы "Notre-Dame de Paris" ("Сабор Парыжскай Багамаці"), дзе кожны куплет знакамітага ўрыўка канчаецца словамі: "Я душу д'яблу гатоў аддаць за ноч з табой". Але ў акцёра Андрэя Кізіны замест гэтых нядобрых слоў прагучала "Я душу д'яблу... не аддам!" І ў гэтым жарце хаваецца вельмі важная рэч. Сапраўды, многія людзі гатовыя аддаць душу чорту дзеля дасягнення пэўных мэтаў. Ці не ведаем мы артыстаў, якія, не маючы аніякага акцёрскага таленту, дамагаюцца велізарнай папулярнасці? Але пра такіх акцёраў, як Міхась Пятроў, нават калі захочаш так сказаць — не скажаш. Знакамітасць, слава прыйшлі да яго шляхам звычайнага руху рэчаў. Проста малады чалавек меў талент, які ён на працягу жыцця развіваў, каб быць у гэтым жыцці камусьці патрэбным. І дайшоў да "народнага"...

Першы намеснік міністра культуры Уладзімір Рылатка ўзнагародзіў Міхася Пятрова "Ганаровым знакам" міністэрства.

Самы кранальны эпізод вечарыны — урывак са спектакля "Маленькі лорд Фаўнтлярой". Стары Хопс развітваецца са сваім маленькім сябрам, лордам Фаўнтляроем. У фінале эпізоду Міхась Пятроў абдымае свайго малодшага калегу і кажа: "Гэта мая замена".

...Шмат прагучала віншаванняў. Думаецца, што ўсе яны ішлі ад сэрца, хаця былі і так званыя "дзяжурныя словы". Не абышлося і без тэхнічных накладак (мабыць, ад залішняга хвалявання з боку стваральнікаў прадстаўлення), канцэртных нумароў, якія з цяжкасцю ўпісваліся ў логіку мерапрыемства. Але за гэтай "шурпатасцю" не схаваўся добры настрой, які панаваў на сцэне і ў зале. Яго агучыла народная артыстка Беларусі Марыя Захарэвіч з Купалаўскага тэатра ("народная" — "народнаму"): "Анёла-ахоўніка табе, Міша, на доўгія гады".

**Андрэй АХМЕТШЫН**

*НА ЗДЫМКУ: акцёр М. Пятроў*

# «АСВЕТНІКІ ЗЯМЛІ БЕЛАРУСКАЙ»

У Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры адкрылася літаратурна-мастацкая выстава " Асветнікі зямлі беларускай ". Гэта першая выстава навукова-экспазіцыйнага праекта "Гісторыя беларускай літаратуры. Старажытны перыяд ".

На выставе прадстаўлены мастацкія працы Віктара Барабанцава, створаныя ў жанры гістарычнага партрэта і пейзажа.

Віктар Барабанцаў – удзельнік шматлікіх рэспубліканскіх і замежных выстаў. У 2001 годзе стаў лаўрэатам прэміі " За духоўнае Адраджэнне ".

Мастака хвалююць вобразы асветнікаў эпох Сярэднявечча і Адраджэння – Кірылы Тураўскага, Еўфрасінні Полацкай, Міколы Гусоўскага, Сымона Буднага.

Падчас адкрыцця выставы Віктар Барабанцаў зазначыў, што звярнуўся ён да гэтай тэмы яшчэ ў студэнцкія гады. Пасля былі працы ў жанры манументальнага жывапісу.

У пейзажных працах адлюстраваны гістарычныя мясціны і архітэктурныя помнікі Нясвіжа, Заслаўя, Навагрудка і Мінска.

На выставе экспануюцца факсімільныя выданні старажытных кніг, арыгінальныя рэчы.

Выстава працуе і чакае сваіх наведвальнікаў.

**П. САЎГЕН**

# ЛАЎРЫ ЗА ПРЫЎКРАСНАЕ ЎМЕЛЬСТВА

**Рыгор Барадулін назваў Уладзіміра Караткевіча князем прыўкраснага ўмельства. "Дойлід, латнік, асветнік і рыцар" і сёлета быў ушанаваны ў Віцебску на дзень нараджэння. Напачатку віцьбічы ўсклалі кветкі да помніка свайму вялікаму земляку. Упраўленне культуры аблвыканкама, гарвыканкама, абласное аддзяленне Саюза беларускіх пісьменнікаў наладзіла літаратурна-музычнае свята ў бібліятэцы імя Караткевіча. Там і прайшлі 19-я па ліку Караткевічаўскія чытанні, якія вёў Давід Сімановіч. А на літаратурна-музычнай імпрэзе шчыравалі са сваімі выхаванцамі-студэнтамі Анатоль Канапелька. Кульмінацыяй свята было ўручэнне абласных літаратурных прэмій імя Караткевіча. Лаўрэатамі 2002-га года сталі Франц Сіўко і бібліятэка імя У. Караткевіча. Супрацоўнікаў гэтай кнігоўні павіншавалі яшчэ і з 25-гадовым юбілеем. Своеасаблівым падарункам у фонды бібліятэкі быў запіс на магнітафоннай стужцы голасу Уладзіміра Сямёнавіча, зроблены мною яшчэ ў 1968 годзе, калі ён чытаў свае вершы, спяваў народныя песні і ўласны раманс, прысвечаны свайму адрасату любові.**

**Давялося ўдзельнічаць і ў падвядзенні вынікаў абласнога конкурсу на лепшы зборнік літаратурных твораў, прысвечаных роднаму краю. Баравікоў сёлета на Віцебшчыне было малавата, а вось новых творцаў наўзамен Караткевічу выяўлена нямала. Загадчык аддзела беларусазнаўства і краязнаўства Віцебскага абласнога аб'яднання па арганізацыі пазашкольнай працы Алег Куржалаў назваў пераможцаў конкурсу: сярод юных паэтаў Віцебшчыны — Анастасія Пыжыкава з-пад Оршы, Надзея Шук з Шаркоўшчыны, Андрэй Сузінь і Андрэй Гольдзін з Віцебска, Лідзія Ніякоўская з Наваполацка...**

**За сачыненне лаўрамі за прыўкраснае ўменне былі ўганараваны Таццяна Крук з Дзісны, Анастасія Амбразевіч з Віцебска, Алена Рулевіч з Браслава, Алена Аўгуціс з Дрысвятаў, Яна Навагродская з ушацкага Мосара і многія іншыя. Уручалі падарункі Алег Куржалаў, Франц Сіўко, Алег Салтук, многія дабрадзеі, якія парупіліся заахвоціць да творчасці сваіх землякоў набытымі імі памятнымі сувенірамі. Мне асабліва прыемна было перадаць зборнік гістарычнай літаратуры "Бацькаўшчына" мёрскім хлопцам — Людвігу Касатаму і Міхаілу Ролiку, бо яны не толькі былі ўкладальнікамі мёрскага зборніка "Ядрыца", але адзіныя ў вобласці выдалі яго тыражом у 300 паасобнікаў. А сёння быць скарынаўцамі няпроста.**

**Уладзімір Караткевіч, углядаючыся з-пад белых крылаў вечнасці на віцебскія падзеі, пэўна ж, быў усцешаны. Бо ён, калі зноў згадаць радкі Рыгора Барадуліна, "...колькі жыў, варочаў валуны, — каб пачалі сыны за розум брацца..." Яго землякі даюць надзею: жыло, жыве і будзе жыць мастацкае слова Айчыны.**

Сяргей ПАНІЗНІК

# ЦІКАВАЯ СКУЛЬПТУРА

**Мастак Анатоль Туркоў з горада Камянца далёка вядомы за межамі свайго гарадка. Яго работы дэманстраваліся на многіх выставах і сваім майстэрствам радавалі вочы гледачоў.**

**А вось нядаўна ён стварыў арыгінальную скульптуру вясковай жанчыны-працаўніцы. Яму спатрэбілася ўсяго некалькі дзён працы, каб важкая калода дуба стала творам мастацтва і захапляла людзей.**

**А не коласаўскім свяце ў вёсцы Люсіна Ганцавіцкага раёна скульптура дэманстравалася з вялікім поспехам і атрымала высокую адзнаку.**

Анатоль ХАРЛАМАЎ

ЗАПАТРАБАВАНА ЧАСАМ

# ЗАКОН РАЎНАВАГІ ЯНКІ СІПАКОВА

1972 год. Амаль — зіма. (Во, калі глядзець з дня сённяшняга, адмежак часу: з'явілася некалькі пакаленняў чытачоў, змяніліся адносіны да літаратуры ў грамадстве...) Студэнцкая аўдыторыя журфака БДУ імя У. І. Леніна. Змрочна. Але раптам цуд уваходзіць у яе, аўдыторыю гэту. Праз роднае слова...

"Зімнымі студзеньскімі начамі, калі настылая поўня скочваецца на самыя гарадскія камяніцы і калі яе ўжо нельга адрозніць ад круглабокіх вулічных ліхтароў; калі ў снежных тунелях сігваюць машыны, якія так спяшаліся вывезці мяцелістую зіму за горад; калі заснежаны па самую шапку студзень, як стомлены чалавек, з крэктам укладваецца спаць на мяккія, узбітыя завеямі сумёты, — такімі зімнымі начамі (я ў гэта веру) у многіх гарадскіх кватэрах самі па сабе, нячутна расчыняюцца вокны, і ў цёплых пакоях неяк па-новаму запахне халодны снег — ці то крохкімі ледзяшамі, ці то зябкім бярозавікам".

Выкладчык, прафесар, у мінулым знаны журналіст-практык на хвіліну змаўкае, мусіць, каб мы ў гэтай паўцёмнай, прапахлай пылам аўдыторыі уявілі "заснежаны па самую шапку студзень (снегу тады яшчэ не было), каб адчулі яго пах, каб убачылі, уявілі, як "расчыняюцца вокны" ноччу, і прагягвае:

"Тады доўга варочаюцца на сваіх канапах і раскладушках вясковыя бабулькі, якія на зіму прыехалі ў горад, каб дагледзець сваіх унукаў (на лета яны забяруць іх з сабою), варочаюцца доўга, аж пакуль нейкі абноўлены сон не выведзе іх праз гэтае акно, расчыненае ў зіму".

— Вось як трэба пісаць нарысы, — настаўляе нас, будучых "геніяў" журналістыкі, выкладчык.

— А то — "слаўна папрацавалі..." і "вывезлі сем вазоў гною", — выскокваю я, Піліп з канапель. — Але ж гэта не нарыс — проза, — кажу далей, — літаратура".

У таго выкладчыка такое свавольства студэнта, між іншым, выклікае адпаведную рэакцыю. Вось наказ яго: ну дык ідзі з аўдыторыі, калі такі разумны, бяры ў кнігарні кнігу Янкі Сіпакова "Па зялёную маланку", прачытай, вызначы жанр, тады і пагаворым.

Такім чынам, праз нейкі раз гэтую кнігу нарысаў Янкі Сіпакова я набыў менавіта тады, у 1972 годзе. Менавіта тады, у далёкім юнацтве, прачытаўшы ў ёй "Там, дзе Сібір", "Ціхая Акіянія", "Па зялёную маланку", а найперш "Акно, расчыненае ў зіму", упершыню быў літаральна ашаломлены магіяй сіпакоўскага слова. Хаця да гэтага чытаў ягоныя вершы і ў "Сонечным дажджы", і "У лірычным выраі", і ў "Дні" — кнігах, як зараз разумею, сапраўднай паэзіі, якімі ён годна ўвайшоў у нашу літаратуру.

Тады ж таксама менавіта пад уздзеяннем названага твора ўзмацнілася ў мяне жаданне (аб ім я пісаў у адным са сваіх лімаўскіх матэрыялаў), бываючы ў якой вёсцы, дзе нарадзіўся хто з нашых пісьменнікаў, разгадаць: чаму менавіта гэтая зямля нарадзіла талент...

У аўдыторыю я вярнуўся праз колькі дзён. Пасля таго, як разам з аўтарам нарыса (падкрэсліваю жанр) праз тое ўяўна расчыненае акно пакінуў яго і мой горад. Той горад, што праз колькі гадоў жыцця ў ім стаў любімым і мне. Той горад, які ў хвіліну ці самоты, ці радасці стане "раптам нейкім мулкім" і мне, як і яму, пісьменніку, і да якога ён (як і я), з нецярпеннем спяшаўся і тады з усіх сваіх дарог, і зараз.

Дык вось: з аўдыторыі — у кнігарню. На яве. А потым ва ўяўленні — у яго, Янкі Сіпакова, Зубрэвічы, да яго герояў, людзей рэальных.

Кніга тая, як гэта бывае ў студэнцтве, засталася ў некага ў інтэрнаце на Паркавай (зараз Машэрава). Там жыло нямала паэтаў і празаікаў, сапраўдных і ўяўных. І вось (абсалютна дакладна!) памятаючы сіпакоўскае "Акно..." з першага прачытання, ніколі яго не забываючы, думкава звяртаючыся да гэтага твора часта, у розныя, найбольш не лепшыя асабіста мае часы, аднойчы, у 1998 годзе набраўся нахабства і амаль запатрабаваў: "Дайце, Іван Данілавіч!.." —"Навошта?" — "На душэўную патрэбу". І сёння, калі раптам становіцца і мне "хмарна", адкрываю тое "Акно...", акно ў свет добрых людзей, у іх і самоты, і радасці. І тады разам з Янкам, Іванам Данілавічам Сіпаковым, іду ў яго родныя Зубрэвічы, у вёску дзяцінства будучага пісьменніка. І, перачытаўшы першыя старонкі, здаецца, паволі набліжаюся калі не да разгадкі, дык да разумення (майго, вядома, разумення) і пісьменніцкага, дый чалавечага таленту Івана Данілавіча. І шукаю паміж намі, сённяшнімі, такімі адукаванымі, разумнымі, ды часам непамерна жорсткімі адзін да аднаго, сувязь з людзьмі з тых нашых хат, з якіх усе мы. Ды з Зубрэвіч, у свет якіх некалі зімою ў горадзе пісьменнік Янка Сіпакоў і мне "расчыніў акно". У творы ж — гэта калі родныя Івану Данілавічу, дык цётка Саша (Ліксаша), а нядродныя, дык дзядзькі Косця, Хрол, Нікіпар, цётка Каця, ды яшчэ многа хто рэальны, сярод каго рос, гадаваўся хлопчык Іванка Сіпакоў, распазнаючы дабро і зло.

Іншы раз, калі і ў сваім асяродку бачыш няшчырасць, зайздрасць, варожасць, звычайную непрыстойнасць, здаецца, што мала ўжо такіх людзей, скажам, як той жа дзядзька Нікіпар. Звычайны селянін. З душою акцёра. Шчыры занадта. Ці не таму і ад людзей чакае шчырасці... Гэта ён, Нікіпар, некалі, калі сірата Іванка хадзіў у трэці клас, ездзіў з ім у лес па дровы. (Замярзалі сіроты.) Той Нікіпар, які "цярпліва выцягваў са снегу, — піша аўтар, — і мяне і ссечаную алешыну, якую я цягаў да саней".

І, здаецца, рэдка сёння ўжо сустрэнеш такога бескарыслівага. Але ці сустрэнеш заўтра, калі ўжо сёння чалавеку з маленства паўсюль удзёўбваюць у галаву: кожны сам па сабе, і толькі так! А гэта гучыць, як чалавек чалавеку — воўк. А дзядзьку Косцю?.. Таго, які заўсёды "пах сухімі стружкамі, свежымі сасновымі трэскамі, карою і смалою". Які ці не ўсёй вёсцы рабіў хатнюю абсаду, і з якога ў Зубрэвічах пачыналася сенакосная пара. Гэта ж са звону яго касы, калі бярэцца кляпаць і якой азываюцца косы астатніх вяскоўцаў, пачыналася вясёлая сенакосная пара:

І спявалі па дварах косы: "Добры дзень, добры дзень!" — "Добры дзень!" — "Сапраўды так, так". — "Чыя ты?" — "Петракова". — "Ну, а я — Лукова". — "Як жывеш?" — "Як жыву?.."

Несумненна, у сённяшніх маладых, тым больш гараджан, сваё ўяўленне пра тую вёску. І гэтая пераклічка наўрад ці ўскалыхне чыю душу. А вось нашы... Ды і ўяўленне ў сённяшніх маладых пра тагачасных вясковых, ды і не толькі вясковых людзей, сваё. Тыпу, дурні былі. Маўляў, за што, дзеля каго высільваліся. Навошта... Чуў такое. Не раз. І нават у аднаю анкеце на пытанне, якім я ўяўляю сучасніка, адказаў "дзіўна" па сённяшнім часе): "Такімі, якімі былі бацькі, суседзі нашы". А ўвогуле, якімі былі, якімі яшчэ ёсць людзі. У вёсцы і горадзе. Сучаснік — той, хто сёння можа накарміць галоднага, суцешыць пакрыўджанага, хто ў любых, самых неспрыяльных умовах зможа застацца проста чалавекам. І, калі ўжо так, — сіпакоўскія зубрэвіцкія персанажы з "Акна...", асабліва жанчыны, бясспрэчна, на паверку больш сучасныя, чым, скажам, іншыя жанчыны нашага часу, у якіх пераважае не стваральнае, а разбуральнае. А яны, апошнія, паўсюль. І ў літаратуры — таксама. Так, ва ўсе часы будуць па-сапраўднаму сучасныя вясковыя кабеты, сярод якіх рос будучы пісьменнік. Хаця б тым, што жаночая дабрыня вызначае іх — тое, без чаго ніколі, "ні пры якой нагодзе" жыццё — не жыццё.

Здаецца, пра жанчын тых у 50—60-я гады напісана было шмат: зараз амаль не пішам. Як хто забараніў... (Ад каго пайшло?) Нямала тады было напісана пра пасляваенных удоў. Не маю права меркаваць, у каго з пісьменнікаў лепш. Але скажу наступнае. Ні ў апавяданні, ні ў аповесці, ні ў якім рамане, дзе закранаецца лёс пасляваенных удоў, асабіста я не сустракаў такой да іх мужчынскай спагады, такога разумення жанчыны, як у трыццацігадовай даўнасці нарысе Янкі Сіпакова "Акно, расчыненае ў зіму".

"Колькі жанчын і ў маёй вёсцы, і ў іншых вёсках і гарадах вайна сілком упіхнула з радаснага даваеннага дзявоцтва, яшчэ сарамлівага замужжа адразу ў халоднае і самотнае ўдаўство, так і не даўшы ім нацешыцца каханнем, нагледзецца ў заміляваныя мужавы вочы, пакінуўшы ім доўгі і тужлівы клопат удоў — чакаць".

І скажыце, хто з нас, шчаслівы ў сямейным жыцці, мае права асуджаць тых няшчасных, што не ўстрымаліся "ад спакусы нацешыцца хоць выпадковым каханнем"....

Гэта Іванка зразумее праз гады. Стаўшы пісьменнікам, аднойчы ён са сваіх няпростых дарог вернецца праз "Акно, расчыненае ў зіму" ў свае Зубрэвічы. У краіну свайго гаротнага маленства. Адтуль ужо сталым чалавекам далікатна напомніць, што іншы раз мы, людзі, заміланыя ўласным шчасцем, так і не бачым чужога гора, якога заўсёды хапала, хапае сярод нас. Ды нагадае: да нейкага часу, жывучы побач з людзьмі, што адорваюць нас сваім бескарыслівым цяплом, не ведаем сапраўднай цаны цяплу таму. І задумаецца, і нас папросіць падумаць, адкуль карані зла, і адкуль карані дабра, і чаму зло такое жывучае. І чаму часам "звычайнае чалавечае сэрца, чуйнае, перапоўненае дабрынёю сэрца, можа да такой ступені ачарсцвець, каб быць такім абыякавым да чалавечага гора..." Як у гэтым творы з паліцаямі (у іх жа таксама сэрцы), якія забралі за сувязь з партызанамі спачатку Іванкавага бацьку, а праз нейкі час і маці... Паліцаі, людзі, якіх некалі нарадзілі такія ж, як і нашы маці, хлопцы, што раслі і гадаваліся сярод такіх жа дзяцей, як і Іванка, забіраючы



на згубу яго маці весяліліся, пілі гарэлку ды абураліся, калі дзеці (трое) плакалі: "Цішэй вы, парасяты! Верашчаць тут, ажно нячутна — нават выпіць культурна не даюць!"

Хто з нас разгадае гэтую загадку прыроды — чаму людзі становяцца нелюдзямі — і ці разгадае калі...

Кажуць, са зменамі часу незалежна ад нас у грамадстве мяняюцца паняцці дабра і зла. Не ўпэўнены. Больш вопытныя мае калегі сцвярджаюць, што нібыта ў горы людзі больш яднаюцца, бо маюць большую патрэбу быць разам. Магчыма. Але калі гавораць аб гэтым, успамінаю словы светлай памяці Паўла Іванавіча Пруднікава, што зло ніколі не пераможа дабро, як бы яно ні сілілася. Гэта гаварыў чалавек, які па даносе ў 30-я гады быў арыштаваны, які прайшоў зямное пекла, які ўсё жыццё, у любых абставінах не мог змірыцца са злом і пратэставаў супраць яго. Ведаю, і ў нашым пісьменніцкім асяродку гарлахваты яго не надта любілі. Таму, што застаўся чалавекам, а не пярэваратнем. Думаў зараз, перачытваючы "Акно, расчыненае ў зіму", што зубрэвіцкія самыя простыя людзі, сярод якіх без бацькоў гадаваўся будучы пісьменнік Янка Сіпакоў і якія ў любых абставінах проста заставаліся людзьмі, сваёй душэўнай моцай сягаюць у такія далі, да якіх многім нам сённяшнім разумным, мудрым ды геніяльным ніколі не сягнуць. Менавіта з нагоды гэтай, з нагоды душэўнай прыгажосці зубрэвіцкіх працякоў успамінаў лімаўскі артыкул цудоўнага паэта і перакладчыка Яўгена Міклашэўскага адносна нашага апошняга з'езду. Асабліва заключную частку артыкула. Сапраўды, што было б з многімі з нас, калі б з'езд той выпаў на 30-я ды іншыя гады... І што было б з многімі з нас сёння пасля з'езду, калі хлусня, паклёпы, абразы іншых літаратараў на сваіх жа калег літаральна захлёстваюць старонкі розных газет.

Разумею некаторае нараканне ў мой адрас: "Як пасмеў!.." Проста... Хаця прымаю адно: мабыць, можна было праводзіць і іншыя паралелі. Ну што ж, думаецца, адна паралель дакладная: са зменай часу ў нашым грамадстве нязменнымі застаюцца паняцці, што вызначаюць чалавека як такога. Думаю, няма патрэбы соты, тысячны раз называць паняцці тыя: іх у творах кожнага з нас нямала. Гэтыя паняцці, зрэшты (у нас жа размова пра канкрэтны твор) "паказаны" як дыягназ чалавечнасці, "прысутны" названым ужо героям "Акна..." Янкі Сіпакова. А таксама, ці найперш, і цётцы Ліксашы, старэйшай сястры бацькі Івана Данілавіча Сіпакова: "Цётка Саша замяніла нам маці і бацьку, — піша пісьменнік. — Яна чакала, што хутка прыедуць і па нас, а таму, як толькі ў вёсцы з'явіліся немцы (у Зубрэвічах яны не стаялі), цётка цалавала нас і гаварыла: "Дзеткі, гэта прыехалі па НАС (выдзелена мною. — **У. С.**) ужо". Яна не адмовілася ад нас, не кінула нас, хоць гэта і ёй пагражала смерцю". Але, аддаючы ёй належнае за тое, што выратавала, пісьменнік праз гады ўжо не асуджае і тую цётку, якая адмаўляла сіротам у прытулку: "...дзіўна было б яе вінаваціць за гэта — яна, маці, таксама ратавала сваіх дзяцей..."

Цётка Саша, як зразумела з твора, выправіла юнака Янку Сіпакова ў вялікі свет. У Мінск, вучыцца. З Оршы ехаў на даху вагона. І помніцца яму, як адтуль здымалі яго міліцыянеры. І як замест таго, каб завесці ў каталажку, падсаджвалі назад: паказваў атэстат сталасці... Цяжкі то быў час, галодна, халодна.

Не ведаю, можа, у тым, што скажу далей, з гэтым няма ніякай паралелі. Але мне бачыцца іншы, наш час. Іншае, рассытнае, сп'янелае ад нялюдскай раскошы жыццё сённяшніх валадароў. "Число им есть". Няма ж ліку па ўсёй былой вялікай краіне бедным, гаротным, абяздоленым. Тым, хто яшчэ нядаўна адчуваў сябе чалавекам.

Не, не паралель з "Акном...": іншая сітуацыя, іншыя людзі, паняцці, час. Толькі не паўтарылася б: таму і тут — свае людзі... Пазней, пасля першага прачытання нарыса "Акно, расчыненае ў зіму", я буду чытаць літаральна ўсё, што напіша выдатны пісьменнік Янка Сіпакоў. Ва ўсіх жанрах. Я стану яго пастаянным чытачом, як і тысячы іншых. Маіх суайчыннікаў ды людзей з многіх краін. Але, захапляючыся яго творамі, за ўсе гэтыя амаль трыццаць гадоў, калі ўпершыню пачуў радкі з "Акна...",так і не асмелюся выступіць у ролі крытыка пісьменніка Янкі Сіпакова. Адно — нярэдка буду называць у сваіх артыкулах пра літаратуру з якой нагоды яго імя, што напісаў па тэме. Чаму? Думаю, чыстая, бясстрасная крытыка такіх, як у яго, твораў, напісаных душою (не выседжаных, як нярэдка бывае ў нас — адсюль, мабыць, і фальш) не можа падпадаць ні пад які разбор. Гэта, па-мойму, як разабраць па вянцы, па дошчачцы, па цвічку, па цаглінцы хату, а потым казаць, якая яна была прыгожая і як цёпла, утульна ды ладам у ёй жыла сям'я.

Мяне ж, як разумею, перш за ўсё і прываблівае цяпло і свята "хаты" створанай пісьменнікам, энергетыка яе насельнікаў, жыццядайны імпульс ні на каго не падобнага гэтага мастака.

Таксама пазней з горыччу, расчараваннем, з абурэннем я даведаюся, што той шаноўны прафесар, які некалі адкрыў нам, студэнтам, "Акно, расчыненае ў зіму" Я. Сіпакова, чамусьці амаль адразу ж стане праціўнікам гэтага твора (з выкладчыкам пра жанр мы так і не пагаварылі). А менавіта ён, увaходзячы тады ў нейкія важныя структуры, будзе катэгарычна супраць, каб кніга нарысаў Янкі Сіпакова "Па зялёную маланку" (у ёй жа "Акно...") атрымала Дзяржпрэмію. І ні тады, ні цяпер не будзе мне зразумела: чаму так... Тым не менш, Дзяржаўную прэмію ў галіне літаратуры Іван Данілавіч Сіпакоў атрымае. Пазней. У 1976 годзе. За кнігу паэзіі "Веча славянскіх балад"...

Затое будзе зразумела, чаму аўтар "Акна...", кнігі "Усе мы з хат" і многіх-многіх іншых ніколі ні на каго не будзе трымаць злосці — высакароднасць яго адтуль, з дзяцінства: некалі паразумнеюць, палюднеюць.

Таксама значна пазней вызначу я для сябе, што многія нашы пісьменнікі пакалення Янкі Сіпакова, і ён, вядома, у сваіх творах створаць оду беларускаму агароду, які выратаваў ад галоднай смерці дзяцей, што перажылі вайну. Яны таксама, пісьменнікі тыя, і Сіпакоў, канечне ж, а то і найперш, створаць гімн беларускай хаце, у якой, нягледзячы ні на якія навалы, і па сёння захаваўся дух дабрыні, чалавечнасці. Ужо ў наш час я вызначу для сябе, што менавіта пісьменнікі яго пакалення ўсё гэта зрабілі раней, чым пісьменнікі іншых літаратур у сябе. (Нашы пісьменнікі, калі празаікі, ды з яго пакалення, — то Пташнікаў, Чыгрынаў, Сачанка, Стральцоў, Гіль, М. Капыловіч, Кудравец, Адамчык, Паўлаў, Місько, Масарэнка, Левановіч, Кузьмянкоў, Казько, Каршукоў, Карамазаў, Дзятлаў, Гаўрылкін.) І ўжо ў наш час, як і многія калегі, жахнуся, што мы, маючы створаны імі бясцэнны духоўны набытак, невядома з якой прычыны на бяду сваю хаваем яго ад дзяцей і ўнукаў нашых. (Саромеемся перад іншымі ўсіх гэтых нашых дзядзькоў Косцяў, цётак Ліксашаў ды тысяч і тысяч іншых, такіх, як яны, сярод якіх мы раслі?)

Таксама ўжо ў наш час зразумею, чаму, чым мяне так вабіць "Акно, расчыненае ў зіму". А таксама чаму ўжо сёння, як ніколі раней, зноў і зноў буду засяроджвацца над адкрытым пісьменнікам у яго нарысе законам жыцця, названым ім самім законам раўнавагі. А фармулюецца ён так: "На нашай зямлі яшчэ не зусім дасканалай зямлі існуе вельмі дасканалы закон раўнавагі. Каб ніколі зло не магло прапамагчы дабро, на кожнага дрэннага чалавека нараджаецца ладны дзесятак добрых, шчырых, душэўных..."

Але, таму і жывём.

**Уладзімір САЛАМАХА**

**P. S. Калегі ўдакладняюць адносна недаступнасці юным лепшых твораў нашай літаратуры мінулых гадоў: у адным з апошніх нумароў часопіса "Маладосць" за 2002 год зроблена спроба вярнуць дзецям такі наш духоўны набытак, як "Адзін лапаць, адзін чунь" Міхася Стральцова. Дык вітаем першую ластаўку! Але, вярнуць бы, ці ўвесці лепшае ў школьныя праграмы, якія, па сведчанні многіх выкладчыкаў, маюць патрэбу ва ўдасканаленні і аднаўленні. Найперш — праз выдавецтвы.**

## Захарава, 19





# МЫ — БЕЛАРУСЫ!

Як горда, як пашанотна павінны гучаць два гэтыя словы ў сэрцы кожнага з нас! **Мы — нашчадкі славутага старажытнага славянскага роду, дзеці зямлі, што, нягледзячы на ўсе навалы, войны і катастрофы, якое ўжо стагоддзе корміць-поіць нас, і мы а б а в я з а н ы памятаць пра гэта.** Абавязаны — і перад продкамі, што не далі вынішчыць ні зямлі, ні мовы сваёй, і перад нашчадкамі, што ўзжадаюць і чыстае крынічнае вады, і чыстага, спеўнага слова беларускага, бо і ім, як нам, не жыць без гэтага...

Як пацвярджае шматвяковы вопыт, **ніякія і нічые ўказы і загады не створаць нічога ні ў эканоміцы, ні ў культуры, калі грамадскасць — усе мы! — будзем абыякавымі і бяздзейснымі.** Усё — і ва ўласным дабрабыце, і ў дабрабыце нашай краіны — залежыць ад нас. Ад нашай адданасці сям'і, справе, Айчыне. Ад нашай упэўненасці ў сваёй сіле, у сваёй праваце. Ад нашай перакананасці ў сваім праве гучна, горда заявіць усяму свету: м ы — б е л а р у с ы!

Няхай жа акцыя па стварэнні кнігі "Мы — беларусы!" стане агульнанацыянальнай, агульнанародней!

**Узгадайце род свой, азірніцеся на жыццё сваё, на ўсё, што выклікае ў душы пачуццё гонару, — і пішыце.**

Агульнымі нашымі намаганнямі кніга "Мы — беларусы!" пазначыць наша месца ў свеце і ў часе, былым і цяперашнім, стаўшы кропкай адліку для новага стагоддзя, для новага тысячагоддзя.

Пішыце на адрас: 220005, Мінск, вул. Захарава, 19, рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і мастацтва"; EMAIL: gazeta_lim @ tut. by.

# НАВІНЫ «ЛІТАРАТУРНАГА КВАРТАЛА»

16 студзеня адбылося чарговае пасяджэнне суполкі маладых творцаў "Літаратурны квартал". На ім былі абмеркаваны прапанаваныя для разгляду вершы Аксаны Спрынчан. Са сваімі меркаваннямі выступілі Наталля Дзянісава, Сяржук Мінскевіч, Таццяна Барысюк, Алена Багамолава, выдавец часопіса "Куфэрак Віленшчыны" Міхась Казлоўскі, каардынатар суполкі Людміла Рублеўская і галоўны рэдактар "ЛіМа" Віктар Шніп. Былі выказаныя крытычныя заўвагі, а таксама адзначаны вартасці паэзіі Аксаны. Абмеркаванне адбывалася ў форме дыскусіі. У выніку падборка вершаў Аксаны Спрынчан была рэкамендаваная да друку на старонках "ЛіМа" як асобная публікацыя.

Іншыя ўдзельнікі пасяджэння таксама пазнаёміліся прысутных са сваім творчым плёнам. Вершы чыталі Алена Багамолава, Таццяна Барысюк, Алег Алекса, Іна Собаль.

Для абмеркавання на адным з наступных пасяджэнняў "Літаратурнага квартала", якія адбываюцца ў памяшканні рэдакцыі па чацвяргах а 18 гадзіне, сваю паэтычную нізку прапанавала Таццяна Барысюк.

"Літаратурны квартал" запрашае маладых творцаў да ўдзелу ў пасяджэннях.

## ІМПРЭЗЫ

# ВЕЧАРЫНА Ў РЫЗЕ

У Рызе ў Цэнтры латышскай культуры прайшоў вечар, прысвечаны песнярам Беларусі Якубу Коласу і Янку Купалу. Тут гучалі вершы паэтаў і песні на іх словы ў выкананні салістаў Рыжскай філармоніі. У канцэрце прынялі ўдзел беларускія фальклорныя калектывы з Рыгі, Даўгаўпілса і Ліепаі. На вечары прачулыя словы аб паэтах казалі Часовы паверaны ў справах Беларусі ў Латвіі Віктар Іваноў, а таксама госці з Мінска: пісьменнік Уладзімір Гніламёдаў, мастак Васіль Шаранговіч. Тут была прадстаўлена і выстава ілюстрацый В. Шаранговіча да паэмы "Новая зямля" Я. Коласа. На вечарыне былі запрошаныя мастакі з Рыгі Вячка Целеш і Васіль Малышчыц, рэдактар газеты "Прамень" Лявон Шанавец, дырэктар Беларускай школы ў Рызе Ганна Іванэ, беларускія актывісты і прадпрымальнікі Рыгі Валянціна Піскунова, Мікола Буры і Васіль Зайцаў, народная цаліцельніца Любоў Міронава, а таксама аўтар гэтых радкоў. На вечарыне былі і паслы Расіі, Польшчы і Кітая.

**Станіслаў ВАЛОДЗЬКА**

# МОЖНА ПАДПІСАЦЦА І СЁННЯ!

Шаноўныя чытачы! На першае паўгоддзе 2003 года на "ЛіМ" можна падпісацца і сёння. Кошт індывідуальнай падпіскі на адзін месяц — 2500 рублёў, на квартал — 7500 рублёў.

**Індывідуальны індэкс — 63856.**

Кошт ведамаснай падпіскі на адзін месяц — 4000 рублёў, на квартал — 12000 рублёў.

**Ведамасны індэкс — 63857.**

# НА ХВАЛЯХ БЕЛАРУСКАГА РАДЫЁ — ЛІТАРАТУРА

**Першы Нацыянальны канал прапануе, як звычайна, аўтарскія праграмы Навума Гальпяровіча, Святланы Шалімы, Галіны Шаблінскай, Ірыны Шауляковай у аўторак, сераду, чацвер, пятніцу ў традыцыйны час — 22 гадзіны 30 хвілін.**

**З панядзелка па пятніцу ў 24.00 гадзін "Кароткія гісторыі" — айчынная і замежная класіка, сучасная літаратура.**

**У суботу — у 10.45 — "Літаратурны праспект", а ў 17.00 — "Жывы гук".**

**У нядзелю — у 14.00 — "Беларускі альбом", а ў 21.30 — "Канцэртная зала".**

**Хочацца звярнуць увагу на перадачы пад рубрыкай "З фондаў радыё", якія гучаць на канале "Культура" штодзённа ў 17.00. У панядзелак радыёспектакль "Час дыназаўра" па п'есе Л. Шчэрбач, у аўторак — урыўкі з рамана І. Мележа "Подых навальніцы", у чацвер — "Я спасцігаю свет" (пазнавальная праграма), у пятніцу — А. Пушкін "Казка пра залатога пеўніка". У нядзелю — "Тэатр перад мікрафонам": І. Козел "Папараць-кветка". Радыёспектакль І. Мележа "У завіруху". Інсцэніроўка паводле рамана "Ігрок". У. Маякоўскі "Незвычайнае здарэнне". Верш чытае аўтар.**

**Іншыя праграмы канала "Культура":**

**"КЛУБ ДАМАСЕДАЎ". Панядзелак-аўторак, як звычайна, у 11.00 працягваем чытанне рамана У. Караткевіча "Хрыстос прызямліўся ў Гародні". У сераду, у гэты ж час — праграма М. Прохар "Хранограф", а ў чацвер — "Натхненне" В. Макарэвіча.**

**"ЛІТАРАТУРНЫ АЎТОРАК" у "Сімфоніі дня" 28 студзеня прапануе сваім слухачам наступныя перадачы: у 12.10 — "Дзеяслоў" Л. Рублеўскай, у 13.10 — "Таленты з глыбінкі" М. Прохар, у 14.10 — "Магія творчасці" З. Каваленкі, у 14.40 — "Сугалоссе" У. Дзюбы пазнаёміць з перакладам апавядання балгарскай пісьменніцы Станенкі Хрыстозавай "Узвышэнне справавода", у 15.00 — "Лісціванні" І. Рыбіцкага, у якіх перапіска І. Тургенева з П. Віардо, у 15.30 — "Паэтычны радыётэатр" прапануе спектакль "Мой свеце ясны" паводле творчасці М. Стральцова. І завершыць "Літаратурны аўторак" на канале "Культура" праграма Г. Шаблінскай "Гаспода", пачатак у 16.10 (паўтор у суботу, у 10.10).**

**Н. К.**

# ПАЭТЫЧНАЕ ПАДАРОЖЖА ПА РОДНЫМ КРАІ

**Так называлася літаратурна-музычная вечарына, што прайшла ў Браслаўскім доме культуры. У ёй прынялі ўдзел сябры літаратурнага аб'яднання Браслаўшчыны "Ветразь надзеі" Тэрэза Крумплеўская, Вікторыя Кузняцова, і Яўген Расалай, а таксама госць з Латвіі Станіслаў Валодзька. На вечары гучалі іх вершы і песні на іх словы, у тым ліку і прысвечаныя Браслаўшчыне, даўгаўпілскага кампазітара Аляксандра Рудзя і кампазітара з Браслава Альберта Белуся. Песні выконвалі браслаўскі фальклорны ансамбль "На панадворку" і салістка Лідзія Прусакова.**

**Гаспадары свята выказалі спадзяванне, што паэтычнае падарожжа па родным краі будзе мець добры працяг.**

**Н. К.**



# ЦВЯРОЗЫ ХМЕЛЬ СТАРОГА ВІНА

*"З пункту гледжання ісціны тое, што я гавару, мае не большае значэнне, чым тое, што я пішу: і тое і другое — занадта літаратура"*

**(з "Дзённіка" Ж.Рэнана)**

Кожны паэт — чалавек будучага. Нават старажытны Гамер... Хоць, пэўна, праўдзівей было б сказаць, што гэта сама Паэзія ёсць праекцыяй і пажадам нашай магчымай будучыні, а значыць — і высокай несмяротнай сілай, што выношваецца і вырастае, як крылы для паднебнага палёту, з таямнічай вечнасці чалавечай душы...

*Мне вельмі цяжка без пяшчоты,*
*Мне невыносна без любві,*
*У вэлюме адвечнай цноты,*
*Што зацягнула у цянёты*
*І ціха мовіла: — Жыві.*
*Ці не жыві — рабі што хочаш:*
*Знікай, хварэй, атруту пі...*
*А калі раптам з шляху збочыш, —*
*Як смелы птах — сябе забі!*
*Упаўшы з неба на каменне,*
*Але не стаўшы на калені*
*Прад жорсткасцю, прад забыццём,*
*Застаўшыся надзіва свету*
*Яго даверлівым дзіцём.*

Гэты выдатны верш з новага зборніка паэткі Святланы Каробкінай "Амфары зялёнае віно" ("Беларускі кнігазбор", 2002). Святлана не з навічкоў, не з пачаткоўцаў, але і не з тых утравелых вершаскладальнікаў, якімі поўніцца птушыны лес беларускай паэзіі. Яна — заўсёдны дэбютант. Прычым, дэбютант напаўвядомы, а таму — з пэўнай доляй таямнічасці... Я сачу за такімі паэтамі (за іх жыццём, і творчасцю) са значна большай увагай, чым за ўсімі іншымі нашымі "кананізаванымі" пры жыцці вершатворцамі. (Трэба зазначыць, што сярод апошніх таксама ёсць сапраўдныя і, час ад часу, іх не абмінаюць творчыя ўдачы, пра што сведчыць выдатная паэма Уладзіміра Някляева "Паланез".)

Святлана Каробкіна — паэтка з наканаваным лёсам зямной пакутніцы. Выпрабаваннямў і нягодаў, што спадарожнічаюць такім, "пазначаным Богам", людзям, на яе долю выпала аж празмерна. Гэтак многа, што падчас усё тое, што ўжо не месціцца ў глыбокіх сховах яе душы, пачынае прабівацца вонкі...

*Стамілася жанчына між дарог,*
*Стаілася між зарасляў ажыны.*
*Яе не бачаць іншыя жанчыны*
*І ведае аб ёй адзіны Бог...*
*Ажыны назбірала у збанок*
*Стамлёная, знямоглая жанчына,*
*Чырвоная і чорная ажына...*
*Назад тры крокі і наперад крок.*
*Куды яшчэ — не ведае сама,*
*Але ідзе стамлёная, спяшае*
*І падае, з гары назад спаўзае,*
*Пасля ізноў над безданню лунае.*
*Над ёю кружыць восень нездарма*
*І ў снег растання хутае зіма...*

Зусім нядаўна, будучы ў гасцях у вядомай нашай пісьменніцы Алены Васілевіч (адной з нямногіх, хто тонка вычувае паэзію, ведае, чытае і піша пра яе), завяліся мы пра новую кніжку Анатоля Сыса.

— *Ах, Лёнечка, вы ўжо надта яго ўзвялічваеце. Паэт той, чые радкі і строфы застаюцца ў людской памяці, і пасля, як эстафета, перадаюцца нашчадкам. Вось вашыя радкі памятаю, а Сысавы не... Проста вам дадзена Богам, кажучы Пушкіным, "милость к падшим призывать"... Вы апякуецеся таленавітымі ізгоямі і за гэта вам — паклон, але ж не перабольшвайце ў іх тое, што ёсць насамрэч...*

— *Алена Сямёнаўна, паверце, па вялікім рахунку, я перад Сысам — шараговы вершаскладальнік... А што наконт Купрэева ды іншых, то яны адносяцца да маіх літаратурных "падпорак" у друку з абсалютнай прахалодай, а падчас нават з пагардай... Усе таленавітыя людзі ганарлівыя і добра ведаюць сабе цану... Маўляў, нам літаратурных падачак не трэба, самі пазычыць можам... Гэта зводдаль на іх глядзячы мінорна-ідылічная карцінка складваецца, а насамрэч неардынарныя творчыя натуры вымагаюць да сябе асаблівых адносін... Такіх высвечвае не блізкі, а далёкі час...*

— *Ой, Лёнечка, памыляецеся вы...*

На тым наша палеміка і абрывалася. Я непахісна заставаўся пры сваёй думцы. Чамусьці да іншых літаратараў з не менш згубным лёсам (а іх шмат) у мяне, не сказаць што абыякавыя, а ўсё ж больш спакойныя адносіны, чым, скажам, да Сыса ці Купрэева. Значнасць мастацкай творчасці вымяраецца не адным пэўным (нашым ці іншым канкрэтным) часам, не тым ці іншым, хай сабе і высакалобым, чалавекам, а ўсім чалавецтвам і ўсім людскім часам увогуле. Безумоўна, калі такая значнасць насамрэч мае быць... І тут інтуіцыя павінна быць бездакорнай. Найчасцей жа мастацкая культурная класіка складваецца са значнай сумы таленавітых памылак...

Аднак вернемся да нашай паэткі. Стыхія апошніх пятнаццаці гадоў закінула яе на край савецкага свету. Паўднёвы, даў Бог. Зрэшты, далей за Максіма Багдановіча туды нікога пакуль не заносіла (але й бліжэй нікога не было)... І менавіта непадалёк ад яго апошняга месца апынулася і пражыла частку свайго жыцця наша паэтка. Хвароба... Крым.... І крый нас Бог... Творчым адбіткам таго жыцця сталася не "наследаванне" бессмяротнаму генію нацыянальнай паэзіі, а як ні дзіўна, адчувальнае ўпадабленне тонкай лірыцы Міхаіла Кузміна, зваротам да "дыянісійскай пары" Максіміліяна Валошына, эстэцтву Леаніда Дранько-Майсюка ды вольнаму нагаворванню Віктара Шніпа... Безумоўна, я магу памыляцца ў сваіх вызначэннях, але, здаецца мне, менавіта гэтая, асабова "пазначаная", — і ў той жа час глыбока самасная — творчая прастора інстынктыўна прываблівала нашу адзінокую паэтку...

Там, у Крыме, піша яна, "мроіўся мне плач зямлі крынічнай":

*Мне чуўся шэпт асіны і бярозы,*
*Язміну водар абдымаў, п'яніў,*
*Насіліся пялёсткі, як стракозы,*
*Над Іслаччу,*
*дзе стогадовы дзіў*
*Фарэль і стронгу вудачкай лавіў...*

Ды якім бы настальгічным ні быў апошні крымскі год, аднак паспешнае вяртанне на радзіму не сталася для паэткі панацэяй: што *пакідала*, і што *засцепела?!*

*Вочы пасталелі, птушкі адляцелі,*
*Восень скалыхнула сэрца пачуццём,*
*Толькі наталіцца душы не паспелі,*
*Як узняўся вецер, дождж*
*і буралом.*

*Ледзяныя вочы у зімовай ночы,*
*Стыне ўсё жывое — мёртвым*
*хоць бы што.*
*Людзі засынаюць,*
*нібы жыць не хочуць,*
*Нібы іх не грэе на зямлі нішто...*

Гэткай, у сваёй рэальнасці, сустрэла яе родная Беларусь. Незайздросны лёс Айчыны нечым напамінаў яе ўласную жаночую долю: смерць маці, адзінота, неразуменне родзічаў і адданенне літаратурных калегаў... Падобнае становішча змушае чалавека зачыняцца ў таемстве сваёй душы, куды не пранікае рампава-тэатральнае свята зямной рэчаіснасці. І ў супрацьвагу гэтаму будуецца свой унутраны свет — мройлівы, саснёны, нетрывалы, але — прыгожы, зманлівы і, як падаецца самому дойліду, справядлівы... Зрэшты, у такім свеце паэты і намагаюцца жыць. На жаль, не доўга там вытрымліваюць, бо, у рэшце рэшт, ім хочацца не толькі бачыць самімі змысленую выяву, але і адчуваць яе рэальнасць: хочацца спрадкаваць душу ў яшчэ жывой плоці, бо дзённае свята ўсё ж "здымае" тую начную "кіношную" заслону, якой паэт намагаўся адгарадзіцца ад жыцця прагматычнага грамадства:




*Белыя вершы, сінія вершы...*
*Плача завея,*
*што студзень завершан,*
*Люты п'е слёзы зіміцы нагбом...*
*Выжывем, пэўна, а можа, памром?*
*Хто яго ведае... Ў вершах зімы*
*Неразгаданыя курчацца сны...*
*Пара прачынацца, а сілы няма*
*З сабою змагацца, пазбыцца ярма*
*Лядовай няволі, загадкавых сноў...*
*Пара прачынацца, вяртацца дамоў.*

Так, які б ні быў наш дом — пара брацца за яго ўладкаванне, пара ўдыхнуць у яго намерзлыя сцены свой нацеплены дух, хоць няблага было б абагрэць яго і натуральным зямным цяплом. Зрэшты, працей жыць ідылічнай прагай немагчыма:

*Ад адзіноты можна звар'яцець,*
*Павесіцца ці нават атруціцца...*
*О, Божа, дай мне розум зразумець,*

*Павінна дзе душа мая гняздзіцца.*
*Дапамажы туды мне даляцець,*
*Дзе ў амфарах гліняных Дыяніса*
*Віно даўно пастаўлена старэць*
*Пад варту маладога кіпарыса...*

Ды ўжо ж! Бо і сама разумее: "*Пара ўжо пісаць мемуары,// А я ўсё вершы і вершы...*" Але як і за што ты яе асудзіш, калі насамрэч:

*Гэту роспач нічым не адужаць,*
*Гэту роспач нічым не разбіць.*
*Трэба быць вельмі моцнай і дужай,*
*Каб ля гнёздаў разбураных жыць...*
*Мо зляцець на край свету адгэтуль?*
*Толькі ведаць бы, дзе ён, той край,*
*Дзе не будзе самотна паэту,*
*Дзе стварыць ён захоча свой рай.*

Пішучы гэтую рэцэнзію ў два заходы, у кароткім перапынку паміж імі я прачытаў падараваны зборнік вершаў вядомай у нас рускамоўнай паэткі Людмілы Турбіной. "Ускользающее чудо" называецца. Даволі трапны назоў. І — вершы цудоўныя. Ды, адклаўшы зборнік, неўзабаве адчуў, што гэта ўсё ж не новыя вершы. Не ў тым сэнсе, што ўжо раней я чытаў іх у перыёдыцы ці ў іншых яе кніжках, не. Проста гэтыя вершы не новыя сярод вядомай мне сусветнай класічнай паэзіі. Яны, пэўна, новыя ў творчасці самой паэткі і, магчыма, будуць новымі для прыхільнікаў яе таленту, але не новыя для самой Паэзіі ўвогуле. У іх няма новага вызначэння чалавека, часу і эпохі. Новыя вершы здараюцца вельмі рэдка, як і самі Паэты. Але тут пачынаюцца стасункі з Усявышнім — і я замаўкаю... (Хіба дзеля большага раздражнення публікі выкажу яшчэ адну суб'ектыўную думку: на працягу апошніх трыццаці гадоў у беларускай літаратуры змаглі напісаць НОВАЕ толькі М.Стральцоў ("Адзін лапаць, адзін чунь", "Смаленне вепрука") ды Ю.Станкевіч ("Любіць ноч — права пацукоў") — у прозе, А.Разанаў ("Шлях-360") ды М.Купрэеў (не даведзеныя да ладу творы жыцця — у паэзіі.)

З гэтай прычыны я змушаны прызнаць, што і вершы Святланы Каробкінай таксама не новыя. Нават для *беларускай паэзіі*. Аднак *жа сама паэтка* ёсць. Гэта адчуваецца, хоць само адчуванне я не магу вам патлумачыць простымі словамі. Што праўда, не ўпэўнены, ці можа яно так быць: *паэт без вершаў альбо вершы без паэта?*

Хоць падобныя прыклады ў гісторыі літаратуры знайсці можна. Некаторыя вучоныя спрабуюць даказваць, што сляпы Гамер не з'яўляецца аўтарам "Іліяды" і "Адысеі". І наш Паўлюк Багрым — па сутнасці паэт без вершаў.

Але гэтыя прыклады не тлумачаць таго, што я намерваўся сказаць, а толькі пацвярджаюць тое, што напісала сама паэтка: "*І здавалася мне — задушу// Я ў сабе несвядомую прозу*"...

Ці не таму "пад тонкай вокладкаю" саёй кніжкі яна пакідае нам "слоў нанізаных маністы", за якімі хаваецца *шматлікі* і *шматаблічны* свет адзінокага чалавека, які нашай паэтцы хочацца згарманізаваць у адно цэлае і жыццядайнае, як і належыць сапраўднаму творцу.

Бо ў чалавечным жыцці няма *пустой марнасці*, Саламон. Няма *дарэмнасці*. Усё, што было, ёсць і будзе — існае... покуль над намі ўзышаецца Неба...

*Калісьці ружы адцвітуць,*
*Пасохне вінаград.*
*Мяне дарогі завядуць*
*У іншы дзікі сад.*
*Але і там, сярод квятоў,*
*Сярод пладоў і він*
*Я буду памятаць любоў*
*Мне дарагіх хвілін.*

А вы думалі, што ўсе *апісаныя* Вільямам Шэкспірам драмы жыцця *стварыў* Крыстофер Марло? Як бы не так! *Усё гэта словы, словы, словы...*

**Леанід ГАЛУБОВІЧ**

**ДАНІНА ПАВАГІ**

# ПАМЯТАЙМА, ШТО ЎСЁ СВАЁ — ДАРАГОЕ!

***"Усё сваё — дарагое". Пад такой назвай у аддзеле рэдкай кнігі бібліятэкі БДУ культуры была арганізавана выстава з кнігазбору Мікалая Міхайлавіча Грынчыка (1923-1999), прысвечаная памяці любімага выкладчыка, паважанага вучонага, загадчыка кафедры беларускай мовы і літаратуры БДУ культуры, Велькага Чалавека, як называлі яго студэнты. Аўтар манаграфій пра творчасць Я.Купалы, Я.Коласа, М.Багдановіча, А.Куляшова, П.Глебкі і іншых, Мікалай Міхайлавіч быў заўзятым аматарам кнігі, меў значны кнігазбор, частку якога ахвяраваў аддзелу рэдкай кнігі БДУ культуры. Апошнія гады свайго жыцця ён выказваў шчырую апеку дзейнасці аддзела, быў ініцыятарам і сааўтарам многіх сумесных праектаў і мерапрыемстваў.***

***Напэўна, каб засталося яшчэ крыху часу ў М.Грынчыка, мы змаглі б прачытаць цікавейшую кнігу яго ўспамінаў. Аднак, на вялікі жаль, многае з таго, пра што ведаў і расказваў Мікалай Міхайлавіч сваім блізкім і сябрам, рассеяна толькі ў іх памяці. Добра б было, каб да 80-годдзя Мікалая Міхайлавіча з'явілася кніга ўспамінаў яго вучняў, паслядоўнікаў і сяброў.***

***З напісанага Грынчыкам нельга не згадаць яго сціплы нарыс пра сябе, які быў надрукаваны ў бібліяграфічным паказальніку "Мікалай Міхайлавіч Грынчык" (Мн., 1993) з новай серыі "Дзеячы навукі і культуры Беларусі", заснаванай бібліятэкай БДУ культуры. Нам хацелася б, каб больш шырокае кола людзей пазнаёмілася з думкамі і поглядамі М.Грынчыка, таму і аддаём у друк яшчэ раз гэты матэрыял.***

**Лора ДОЎНАР**

## "МОЦ СЛОВА — СІЛА ДУХУ"

Да такой высновы кожны ідзе сваім непаўторным шляхам. У мяне вера ў сілу і прыгажосць роднага слова звязана з імем Янкі Купалы. Многія яго анталагічныя вершы ведаў яшчэ ў дзяцінстве напамяць, перапісаўшы іх лацінкай (кірыліцы нас у польскай школе не вучылі) у свой школьны сшытак з "Хрэстаматыі" І.Дварчаніна ў 1936 г. ("Ворагам Беларушчыны", "Над Нёманам", "Мужык" і іншыя). Яшчэ тады ва ўмовах акупацыі Заходняй Беларусі інтуітыўна адчуў, што адзіным надзейным абаронцам правоў і гонару беларуса з'яўляецца літаратура.

Незабыўны след у юнацкай душы пакінула канцэртнае выступленне М.Забэйды-Суміцкага ў Трэцім дзяржаўным ліцэі і гімназіі імя І.Ляпевеля ў Варшаве (1937 г.). Па просьбе слухачоў ён праспяваў некалькі беларускіх народных песень ("Калыханка", "Зялёны дубочак", "Лявоніха" і іншыя). Эфект быў нечуваны – яго вынеслі на руках з актавай залы пад бурныя воклічы захаплення!!! Для мяне ж асабіста гэта быў сапраўдны гаючы глыток свайго роднага паветра на засмужаных вуліцах даваеннай польскай сталіцы.

Вучоба ў роднай беларускай школе пасля верасьнёўскіх падзей 1939 г. (г.Слонім, Косаў) толькі паглыбіла юнацкія захапленні, а вобраз Андрэя Лабановіча стаў маім ідэалам на ўсё жыццё. Марыў стаць настаўнікам роднай мовы і літаратуры. Аднак мары гэтыя здзейсніліся толькі праз восем гадоў, калі паступіў у Гродзенскі педінстытут (1948 г.). Тут, нарэшце, даў волю сваім філалагічным зацікаўленням, з вялікай карысцю вывучаў спадчыну такіх карыфеяў навукі, як Я.Карскі, А.Пыпін, А.Весялоўскі і іншыя.

Як вядома, беларускі фальклор у пасляваенныя гады вывучаўся даволі павярхоўна, ён абмяжоўваўся пераважна жанрам калгасных прыпевак-дрындушак, аднак летняя экспедыцыі, вывучэнне фактычнага матэрыялу, працы дарэвалюцыйных фалькларыстаў пераконвалі мяне, што вяршынныя здабыткі нашай класічнай літаратуры непарыўна звязаны з народнымі вытокамі. Самая эстэтычная сутнасць фальклору, яго маральны кодэкс дае магутны духоўны імпульс кожнаму, асобе творчай, таленавітай асабліва.

Чаму? Гэтае пытанне зацікавіла мяне з першых крокаў даследчай працы (1954 г.) у Інстытуце літаратуры імя Я.Купалы. У выніку з'явілася мая першая манаграфія "М.Багдановіч і народная паэзія" (1963 г.). У сярэдзіне 60-х гадоў паралельна з працай над чатырохтомнай "Гісторыяй беларускай літаратуры" (калектыўная праца) пачынаю вывучэнне праблем мастацкага фальклярызму ў кантэксце асноўных гісторыка-літаратурных з'яў і працэсаў XIX – пач. XX ст. (манаграфія "Асновы беларускага вершаскладання", 1973 г.).

Праца ў галіне крытыкі цесна звязана з праблемамі літаратурна-фальклорнага ўзаемадзеяння, яна ў значнай ступені пашырае ці канкрэтызуе некаторыя тэарэтычныя вывады маіх літаратуразнаўчых прац.

Завяршаючы свой кароткі экскурс у мінулае, не магу не адзначыць, што працаваў заўсёды з пачуццём асабістай адказнасці, сумлення, без кан'юнктурных рэверансаў, даволі модных сярод навуковай брацыі... і ў гэтым адчуваю цяпер пэўную сатысфакцыю.

Аднак з трывогай мушу зазначыць, што мая рамантычная вера ў сілу і магутнасць мастацкага слова ў апошні час *прыкметна слабее*... *На нашых вачах* звужаецца яго ўплыў на многія сферы нацыянальнай культуры, асабліва на грамадскую свядомасць. Як тут не ўспомніць словы беларускага Баяна з верша "Прарок":

*Так гаварыў і з рабства клікаў*
*Людзей на волю той прарок,*
*Ждучы з трывогаю вялікай*
*Ад іх адказу неўнарок.*

*А людзі, глянуўшы на сонца,*
*Адказ казалі грамадой:*
*Па колькі ж нам дасі чырвонцаў,*
*Калі мы пойдзем за табой?*

Верш напісаны ў пачатку XX стагоддзя (1912 г.), але наколькі ён сугучны нашаму часу. Паэт адкрыта папярэджвае сваіх сучаснікаў і нашчадкаў – будзьце пільнымі, не прасціце волю, бо за яе прыйдзецца плаціць не "чырвонцамі", а пакутлівым лёсам цэлых пакаленняў.

Не забывайце, людзі добрыя, гэты наказ Паэта, шануйце сваё роднае Слова, змагайцеся за сваю Праўду, а дапаможа Вам у гэтай справе ўсемагутны Бог...

**Мікалай ГРЫНЧЫК**

# І КАРАНІ, І КРОНА — ЖЫЦЦЯДАЙНЫЯ

Часам падаецца, што ў наш час, калі хто вершаў і не піша, дык хіба толькі лянівы. Ва ўсякім разе ў недзяржаўных выдавецтвах і іншых структурах, якім, паводле ліцэнзіі, дазволена гэтым займацца, выходзяць штогод дзесяткі, калі не сотні паэтычных зборнікаў. Паколькі яны звычайна не надта аб'ёмныя, сродкі на выданне не так і цяжка знайсці. Тыя, хто прэтэндуе на званне "паэт", апынуліся ў лепшым становішчы, чым празаікі альбо крытыкі. Апошнім трэба, каб выдаць кнігу, знайсці не адну тысячу долараў, што, вядома, не рэальна, а каб з'явілася кніга вершаў, дастаткова некалькі сотняў. Калі, вядома, праявіць разваротлівасць...

Ды я не збіраюся падказваць, як усё зрабіць, а пра тое, што сам па сабе гэты працэс лёгкасці не такі і благі. Калі прыняць пад увагу, што сярод паловы можна напаткаць і зерне. А кніга Алеся Клышкі якраз і адносіцца да тых зборнікаў, якія не важна, дзе выйшлі, а важна, якімі выйшлі. Дарэчы, пабачыла яна свет у Беларускім выдавецкім таварыстве "Хата", а наконт твораў, дык, не сумняваюся, што чытач, які не абмяжоўвае свае інтарэсы толькі знаёмствам з класікай ці аддае найпершую ўвагу модным літаратурным плыням, знойдзе для сябе нямала цікавага.

Праўда, нельга сказаць, што А. Клышка хапае зоркі з неба. Але ў чым яму нельга адмовіць, дык у адкрытасці. Пра такую паэзію звычайна кажуць: хоць нягучна, але вельмі шчыра. Найперш А. Клышку ўдаюцца вершы, у якіх гучаць матывы любасці да роднай зямлі, Бацькаўшчыны, а аўтар паўстае чалавекам неабыякавым. Больш за тое, яму баліць, што многае пакуль адбываецца не так, як хочацца. Аднак над трывожным роздумам абавязкова бярэ верх цвярозы аптымізм:

*Не згіне з карты родны кут*
*І не сцерці назвы Беларусі,*
*За яе, гаротную, малюся,*
*Каб пазбавіў, Божа, ад пакут.*

Алесь Клышка ўмее быць і цікавым лірыкам, калі душа ягонага лірычнага героя быццам пачынае ўбіраць у сябе ўсё хараство навакол. У гэты момант нараджаюцца радкі, кранальныя сваёй першароднасцю:

*Так ціха, што чутна, як цені*
*На роўнядзь вады ляглі.*
*І выйшлі з казкі ёлкі,*
*І побач моўчкі прыселі*
*На беразе срэбнай ракі.*

Паэтычны малюнак спакваля набывае новую акрасу, становіцца больш уражлівым:

*Заснуў за пагоркам вецер.*
*Удалечы бачны кастры.*
*І месяц, да яснасці ветлы,*
*Спусціўся на дно ракі.*

І вось ужо завяршальны акорд гэтай дзіўнай гармоніі, што складаецца з таго вечнага, чаму няма ні пачатку, ні канца, а чалавек назіральны, не пазбаўлены пачуцця замілавання, заўсёды будзе знаходзіць у гэтым адметнасць, нязменна радуючыся пабачанаму, убіраючы яго ў сябе і прапускаючы праз сябе:

*Прыйшла на спатканне дарога.*
*Ёй губы цалуе раса.*
*І ранку чакае ля стога.*
*Як страж, у маўчанні строгім,*
*Сагнуўшыся, дрэмле каса.*

Увайшлі ў кнігу і вершы-прысвячэнні. Асобныя з іх адрасаваны блізкім людзям. Акрамя таго, прадстаўлены і творы, напісаныя па-руску. Па датах, што пастаўлены пад імі, бачна, што А. Клышка, сын горада, як і многія, не адразу прыйшоў да беларускай мовы. Але не мог не прыйсці, бо яго душа напоўнена родным, блізкім, дарагім. Напоўнена беларускасцю.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

# ПРАЦЭС ЭРОЗІІ, АЛЬБО ПРЫНЦЫП БУМЕРАНГА

**Мінулай вясною Алесь Макрацоў перыядычна не даваў мне спакою ў часопісе "Крыніца". І трэба прызнацца, яго высілкі аказаліся недарэмнымі. Некалькі яго вершаў мы ўсё ж выдрукавалі.**

**Я ведаў, што А.Макрацоў доўгі час пісаў вершы па-руску. Але ж і ў чорным сне не снілася мне, што менавіта іх выдасць ён кніжкай за ўласны кошт, якую і прынясе ў... якасці падарунка. Буду шчырым, мяне гэта данельга засмуціла. Калі я спытаў у аўтара: чаму?! — ён адказаў проста: шкада стала зробленага, усё ж столькі год пісаў, няхай застанецца памяць...**

*— А беларускамоўны зборнік?!*
*— Пазней трохі, як грошы знойдуцца...*

**Вось яна, падумаў я, звыклая праява нашай нацыянальнай ментальнасці. Чужога праміналага — шкада, а сваё неабходнае — недзе там з краёчку пачакае...**

**А ў нашым выпадку яшчэ высоўваецца і такі пасыл: маўляў, паэзія — гэта мова душы, а душа разумее ўсякую чалавечую мову... Усё гэта так, ды ёсць адно "але"... Каб выяўляць з душы Паэзію, трэба, каб яна змовілася з тваім кроўным родам і акаляючым светам — інакш што і каму яна скажа! Значыць, душа наша найперш засвойвае родавую (родную!) мову, з**




**якой і выкрышталізоўваецца Паэзія. Усё іншае — пераклад, а значыць, другаснае...**

**Я так разумею (маю свой пакутны вопыт). І гэта не мараль, схільная да крытыканства адносна канкрэтнага вершатворцы, які, дарэчы, у падобным "душевном порыве" далёка не адзінокі на прасторах былога СССР, і ў Беларусі ў прыватнасці.**

**Што да самой кніжкі Аляксандра Макрацова "Пружина времени", то ўвогуле гэта чытэльныя, псіхааналітычныя, не заўжды "удобоваримые"** *стихи* **на няроднай аўтару мове (апошняе адчувальна ледзь не ў кожным вершы). Усе яны адпавядаюць канонам класічнага вершаскладання, маюць адаптаваную рытмічную сістэму, рыфмоўку і мастацкую тропіку. Адным словам, вершы роўныя і сур'ёзнай крытыцы не падлягаюць. Паэт разумее і свядома трактуе засвоеныя "азы" перабудоўчай адраджэнскай тэматыкі. У народзе пра такіх кажуць: не на словах бы, а на справе... У дачыненні ж да А.Макрацова — наадварот: на словах бы!**

**Вось цытаты з ягоных вершаў, якія пра гэта сведчаць:**

*"Не Купалы святое слово*
*Продолжает моя строка, —*
*Отличается сына говор*
*От родной земли языка".*

**(У апошнім радку прачытваецца непрыкрытая асацыяцыя з М.Багдановіча: "Цвяток радзімы васілька".)**

*"Национальные мужи,*
*Хлебнув на Родине чужбины,*
*Развенчивают миражи*
*И реставрируют святыни."*
*"Увеча белорусский дух*
*На историческом откосе, —*
*Распространяется вокруг*
*Национальная эрозия."*

**Шаноўны Алесь, тваімі б вуснамі ды мёд піць... А паколькі піць пакуль няма чаго і няма за што, то, ведаючы цябе як чалавека шчырага і сумленнага, пачакаем падобнай нагоды да, будзем спадзявацца, хуткага выхаду ў свет тваёй новай паэтычнай кніжкі. Беларускай. Не толькі духам, але і словам. Удачы і плёну табе.**

**ЛеГал**



**Генадзь ПАШКОЎ**



# І РАДАСЦЬ, І БОЛЬ, І НАДЗЕЯ

***

*Ступаць у чысты снег*
*ні боязна,*
*ні смела.*
*Ён на алтар вядзе,*
*вядзе душу і цела.*

*У светлыню ступай,*
*хмялі душу азонам.*
*А скрушнае няхай*
*адвеецца са звонам.*

*На скроні,*
*далані —*
*нябеснае прычасце.*
*Ідуць Хрышчэння дні —*
*мароз,*
*агонь*
*і шчасце.*

## ЗВАНЫ

*Ударыць медныя званы,*
*і загудуць званіцы неба.*
*Завуць да святасці яны,*
*а іншага душы не трэба.*

*Не трэба іншага,*
*калі*
*грахоў вакол — па поўнай*
*мерцы!*
*Святы Георгій на кані*
*і той, нібыта ў паняверцы.*

*Замры, стары!*
*Заціхні, мал!*
*Суцішся, свет бесперастанны!*
*Будзі,*
*узвышаны метал,*
*збівай грахоўныя кайданы!*

***

*Ад былінкі малой*
*да самога свяціла*
*зіхаціць навакол*
*найчысцейшае дзіва.*

*Апусціся на лёд,*
*зазірні ў азярыну.*
*Жыццядай-кісларод*
*сініх вочак пакінуў.*

*У прыцемненым сне,*
*аглядаючы глыбы,*
*ходзяць вяла па дне*
*залачоныя рыбы.*

*Акаваны, цячэ*
*пушчы цёмнае з краю*
*нескароны ручэй,*
*стыні шкло выгрызае.*
*Парушынкі іскраць*
*над сінечаю вадкай.*
*Проста страшна ступаць*
*крышталёваю кладкай.*

***

*Такое сонца*
*выпырснула ў вочы!*
*Такая воля,*
*і такі мароз!*
*Скрозь — чысціня, аб'інелая*
*ноччу,*
*пірамідальных елак і бяроз.*

*Як нехта ўдарыў*
*крамянёвым крэсівам.*
*Яшчэ ударыў, грэючы мароз.*
*Нібыта Свет,*
*прапаўшы, уваскрэснуў*
*у неабсяжным росхрысце нябёс.*

***

*Светла на лузе і чыста.*
*Сінь перадзімняя спрэс.*
*Думае думу вячысты*
*сонцам падсвечаны лес.*

*Ціха над заваддзю дзынькне,*
*быццам слізне па плячы,*
*белаю,*
*тонкай лядзінкай,*
*месяц настылы ў начы.*

***

*Закружыўся першы снег*
*на ўрачыстыя яліны.*
*У высокіх вершалінах*
*пошум радасны прабег.*

*Над сцяжынай змерзлай звон,*
*па яловых лапах колкіх*
*рыжахвостая вавёрка*
*завілася, што агонь.*

*У імшарніку густым*
*і высокая асіна,*
*і глыбокі след ласіны*
*закаваныя*
*у стынь.*

*Благаславёны светлы час,*
*як прасцяг раздолля,*
*вечны!*
*... Ападае снег на плечы,*
*як апошні,*
*першы раз.*

***

*Скупое студзеньскае сонца, —*
*ледзь узышло —*
*і ўжо няма! —*
*падсвеціць рыбаку*
*ў палонцы,*
*што ён на лёдзе недарма,*
*як зазвініць тугая леска*
*і ўспыхне ў снезе*
*вугалёк —*
*трапечацца*
*зямлі палескай*
*чырванапёры акунёк!*

## СЦІШАНЫ ЛЕС, АПУСЦЕЛЫ

*Крок за крокам —*
*па гулкім карэнні ў бары:*
*то выжара — у пнёўі,*
*то ў лісці — паляна.*
*А здаецца, учора крывёю зары*
*у малінніках дзень налівайся*
*духмяна.*

*Вось і ўсё...*
*Апусцеў і адразу панік,*
*ледзьве лета малінавы звон*
*адспявала.*
*Вунь на кволай грыбніцы*
*імхоў пухавік*
*дзеразою зялёнаю зашнуравала.*

## ВОСЬ ТАБЕ І МАЕМ

*Перанёсшы на гарбе*
*войнаў ліхалецці,*
*шчыт кавалі мы сабе,*
*жыць каб вольна ў свеце.*

*Думай:*
*"Бацькаўшчына — перш!*
*Гэтым будзь шчаслівы!" —*
*заклікаў даклад і верш,*
*спелячы парывы.*

*Не даеў,*
*не далюбіў,*
*не даспаў народзе.*
*Спадзяванкамі ён жыў.*
*Маналіт узводзіў.*

*Выгіналіся ламы, —*
*прагрызалі шахты!*
*І не ведалі, што мы*
*будзем мець з той вахты.*

*Як жа так*
*нас развялі?!*
*Вось табе і маем:*
*сваёй зброяй,*
*кавалі,*
*у сябе страляем!*

***

*Такая радасць ёсць:*
*накручваюцца слёзы,*
*калі праб'е наскрозь*
*іскрысты дух марозу!*

*Разлог з лясоў і хат.*
*Зямлі і неба сіла.*
*Скіруецца пагляд*
*да мудрага свяціла.*

*Кладзеш глыбокі след*
*праз белізну бярозаў.*
*І молішся на Свет,*
*на чысціню і розум.*



# І ЯНА АЖЫЛА

## УРЫВАК З РАМАНА “МІНСК І ВОРАН, ПАРЫЖ І ЗДАНЬ”

**Анатоль КАЗЛОЎ**

Імжыць сяйво драбнюткага дажджу. Быццам праз вялікае, неабдымнае рэшата выціскаюцца нябёсамі волка-набрынялыя аўчыны хмараў. Сцякаюць кроплі самасейнымі слёзамі па шапаткой лістоце бярозак і клёнаў, па налітых гаркавым сокам ягадах арабін, па нязрушных валунах, якія, быццам волаты, уздымаюцца з зямлі на дзесяткі кіламетраў ад былога Асінаўскага замка. Хінуцца долу густыя, ногі не пацягнуць, травы па лугавінах і вольных ад рэдкалесся лапіках-палянках. Абмываюцца ад дзённай спёкі крамяна-ядраныя, хрумсткія капялюшыкі-галоўкі баравікоў ды падасінавікаў, абабкаў і сямеек лісічак з плоймай чорных груздоў. Няма каму іх збіраць. Чэзнуць яны, трупехнуць, паядаюцца смаўжамі ды жукамі, сточваюцца ненажэрнымі лічынкамі грыбных мух, збіваюцца капытамі ды лапамі лясной жыўнасці.

Ад гнётка-цяжкога, прыземістага замка князя Воліса і ягонага сына Севалада засталіся толькі згладжаныя часам развалiны. Разбурылі яго рукі тых нашчадкаў, хто некалі будаваў, узводзіў і даглядаў камяніцу. За прамільгнулыя стагоддзі і гады шмат чаго змянілася ў свеце: сыходзілі ў нябыт пакаленні, нараджаліся, стваралі гісторыю, не так цяпер і важна, добрую ці дрэнную, сыны і дочкі зямлі Магілёўскай. Праносіліся над шырокімі палямі і бязмежна-дрымучымі лясамі свавольна-незацугляныя вятры і вятрыскі, бураломы і навальніцы. Не-не, не толькі прыродай народжаныя, але і рукамі, душамі людскімі створаныя.

Замкавы парк, раней дагледжаны і прыгожы, як лялька, цяпер выглядаў звычайным лесам з вываратнямі і заваламі, трупехлымі пнямі і мурашынымі хаткамі з бурайігліцы. Больш-менш упарадкаванай засталася толькі ліпавая алея, з магутных, утрох не абхапіць, дрэў. Каб патрапіць на яе, трэба было прайсціся па зарослай травой брукаванцы, уздоўж якой цягнулася з аднаго боку нейкая гаспадарчая пабудова, яна захавалася крыху лепш за сам замак.

У алеі раскашавалі дзятлікі. Паўсюль іх бачылася такое мноства, што здавалася, быццам птушак спецыяльна сюды сагналі з бліжэйшых лясоў, альбо, налавіўшы ў велькія мяхі-сяннікі, прынёс нехта і выпусціў. Маўляў, тут вам самае месца. І яны, як сапраўдныя, шчодрыя працаўнікі, завіхаліся на кары магутных дрэў. Нястомна перастукваліся, нібы вясковыя касцы кляпалі, наводзілі косы перад першай летняй касавіцай.

Але над усім прасторам-прасцягам былога замка, над кожным бліжэйшым ад яго лапіку зямлі кружляла ў паветры нешта хвалюючае, нават нудотнае, што выклікала ў душах людзей, якія сюды выпадкова заходзілі, незразумелую паніку, палахлівасць, а ў таго-сяго і дэпрэсію. Імгненную і шалёную. Мо таму і абміналі развалiны замка жыхары бліжэйшых вёсак і сёл. Нават гаспадарлівыя хутаране не кваплiся на дабрэнную, вышэйшага гатунку цэглу, з якой можна было і печ у хаце скласці, і падмурак пад любую пабудоўку ўзвесці. Нічога не баялася толькі рознагалосае лясное птаства з увішнымі дзятлікамі, ды лісіцы аблюбавалі гэта месца. Нораў іх паўсюдна не злічыць. Заходзілі ласі з касулямі, сем'і дзікіх кабаноў, прамільгвалі палахлівыя даўгавухія зайцы, а часам спыняліся каля развалін і шэрыя ваўчыцы з вывадкамі.

Зараз за возерам, якое князю Волісу дасталося ў спадчыну разам з замкам ад прадзедаў і якое цяпер нагадвае з прыгаршчы балотца, парослае трыснягом і аерам ды асакою-разучкай, — густа растуць хмызнякі і гонкія карабельныя сосны. Вятры-вятрыскі прынеслі некалі насенне з далёкіх зямель, кінулі ў глебу, і яно пацягнулася напачатку кволымі дрэўцамі да сонца і нябеснай сінечы. Мiналі леты і зімы, вёсны і восені — мацнелі, убіраліся ў сілу пасадкі-ветрасейкі. Цяпер ужо нават на развалiнах замка, сярод раструшчанай цэглы, россыпу невялікіх, па кулаку, і гнёткіх пудавікоў, што і некалькім дзябёлым мужыкам з месца не зрушыць. І тут таксама выпрасталіся, выцягнуліся ўвышкі залацістыя, быццам грэчневым мёдам шчодра намазаныя, — сосны. Карэнні дрэў глыбока аплялі падмурак замка, які яшчэ высіўся над няроўнай, буграстай зямлёю ці не ў рост чалавека, прабіліся і ў падзямелле замка, у бясконцыя, як падавалася, паграбкі і былыя вінныя ды харчовыя кладоўкі-схованкі. Густая, на палец таўшчынёй, цвіль пакрывае іх сцены, барадамі звісае са шчарбатай столі. Цяпер тут кажанам і жукам-рагачам раздолле ды вольніца. А яшчэ бясплоднаму прывіду, які нястомна і няўлоўна гойсае не толькі па развалiнах замка, каля возера-балотца, але і па вузкіх калідорах падзямелля. Лёгкай пушынкаю праплывае ён між рознага друзу, не ўздрыгвае ад ягонага дотыку нават павуцінне з высушанымі мухамі на маленькіх праёмах-акенцах, праз якія прабіваецца ў падзямелле цьмянае, быццам вечаровае, святло. Ні днём, ні ноччу не знаходзіць здань спакою, бясшумна шастае ўлетку па квецені траў, над дзьмухаўцамі і купкамі кратавіння, над сцяблінамі піжмы і палыну, сярод здзічэлых кустоў бэзу і чаромхі-канкалушы, а зімою праплывае блакітнавата-ружовая, трапяткая постаць над гурбамі, замецццю снегу між дрэў, над сумётамі, каля развалін, па ліпавай алеі, палохаючы вавёрак ды вераб'ёў з сініцамі, якія прылятаюць сюды паласавацца не аббітым ветрам насеннем, што засталося яшчэ на ліпах. І ніводнага слядочку не застаецца пасля прывіду на бялюткай пульхнай прасціне снегу, не парушаюцца карункі інею на прутках арэшын, на дубчыках маладога асінніку. Бесцялесная здань праходзіць праз усё, што трапляецца на яе шляху. Хоць часам бязважкія рукі і парываюцца, наважваюцца сашчыкнуць падмёрзлыя, як кроплі крыві яркія, ягады з калінавых кустоў, ля азярца-балотца, але ж марны гэта занятак. Як вада скрозь пальцы жывой плоці, праскокваюць спелыя ягады праз далонь прывіду. Нават не шалахнуцца, не затрымцяць ад неадчувальнага дотыку.

За мінулыя стагоддзі тысячы людзей бачылі здань увачавідкі, сустракаліся з ёю ў парку і на руінах замка, у прылеглых лясах і каля княжацкага возера. Чулі прыглушаны стогн-галашэнне, які часта разносіцца па наваколлі. І лягла на гэтыя мясціны забарона-табу. Ніхто з жыхароў-тубыльцаў не адважваўся прыйсці сюды ні днём, ні днём Божым, ні ноччу цёмнай. Нават не ганялі скаціну пасвіцца на сакаўныя, некратуныя травы, бо кожная сустрэча з прывідам Кацярыны несла людзям невылечныя хваробы, ад якіх каналі смельчакі за лічаныя дні, высыхалі за гадзіны, не раўнуючы, як скрылікі яблыкаў у гарачай, выпаленай дубовымі дрывамі печы. Горш за бубонную чуму баяцца вяскоўцы з сяльчанамі, хутаране ды прыезджыя ў госці да іх гарадчукі сустрэч са зданню. Вось чаму не збірае ніхто каля былога замка ні грыбоў, ні ягад у самыя ўрадлівыя гады, не ловіць рыбы ў азярцы, не прыходзіць на паляванне, хоць тут лясной жыўнасці расплодзілася, як у ахоўным запаведніку. Усяму віною — прывід Кацярыны, які азлобіўся на ўвесь род людскі.

Вось і сёння ўжо вечарэе. Прыцемкавая шэрань пераходзіць у густаватую і цёплую, бо цяпер жа сярэдзіна лета, як згатаваны расол, ноч. І ўсё ж лёгкая, ледзь улоўная, стылосць пражылкамі адчуваецца ў пахаладалым паветры. Азярцо князя Воліса, а пасля і Севаладава, выдыхнула з сябе празрыстую тканку туману. Павісла яна, зачапіўшыся за вяршалінкі аеру, над самай вадою, а пасля, быццам апамятаўшыся, папаўзла на бліжэйшыя кусты вербалоззя ў нізінках і ўпадзінах, прасачылася між камлёў дрэў, аблашчыла шурпатую паверхню валуноў і датыкнулася, нарэшце, разбураных рэшткаў замка. З-за далёкага грэбня лесу, які, быццам затупленыя пікі, падпіраў неба, паказаўся ярка-парпурны краёчак начнога свяціла. Палахлівай, ледзь заўважнай пазалотаю асвяціліся нізкія, з фіялетавым адлівам, воблакі-хмары. Яны былі падобнымі на падрыхтаваную для праства кудзелю. А на недалёкай лугавіне, у тумановым малацэ, раптам ускрыкнуў драч. Ды так адчайна і безвыходна, быццам перад сконам. Можна было падумаць, што ўчэпіста-неадступная смерць сціснула птушыную глотку. І зноў цішыня. Нейкая глухая, усёпаглынаючая, без пачатку і канца. Такое адчуваеш, калі нагінаешся ў вялізную бочку, каб дастаць з самага донца пару апошніх салёных агуркоў. Поўня ж дастойна, з гонарам, як павапаненка, выплывала, узбіралася на неба, да сваіх зіхатлівых дочак-зорак.

Вось яна вялізным зласнаватым дыскам павісла над лесам. Усяго на некалькі сантыметраў, а ўжо праз мірг вока, нашмат паменела, успаўзла на сярэдзіну неба. І адразу ж заліла навакольле казачна-ірэальным святлом, якое адначасова зачароўвала і наводзіла страх.

Выбраўся з падзямелля і прывід Кацярыны. На імгненне затрымаўся на паўразбураных прыступках, а пасля, не азіраючыся, паплыў па друзу з камянёў і цэглы да вышэйшай бакавой сцяны, што найбольш узвышалася над спляжаным замкам. Цяпер Поўня вісела над



самюткай запракінутай галавою здані, якая цягнула свае бязважкія рукі да плямістага свяціла ночы.

«О, вечная маці мая, за што, скажы, учынілі такое злачынства са мною людзі? Тыя, каго я кахала, каму ніколі бяды не чыніла. І да якога дня нязнанага пакутаваць мне прывідам бясплодным ды бесцялесным? — узмалілася здань да Поўні. — Я хачу, нарэшце, спакою, хоць і не натолена маё сэрца дзявочае мужчынскаю ласкай, а цела не спазнала любові гарачай. І ўлонне маё жыццядайнае не выпусціла ў свет белы нашчадкаў, якія б род прадоўжылі, а ў старасці мае балесныя вочы цешылі. Здрадзіў, подла здрадзіў, загубіў сваю Кацярыну Севалад разам з палюбоўніцай. Яму добра, ён мае магілу і пліту на ёй гранітную, а я пазбаўлена нават і гэтага. Дзе ж справядлівасць, Поўня-паўніца? Не нажылася я ў целе людскім, не ведаю прытулку і цяпер. Завісла між небам і зямлёю. Хачу помсты, бязмежнай помсты хачу я. Усім спадкаемцам, наступнікам Севалада і Марфачкі, куды б іх лёсам не занясло. Да сёмага калена пашлыкатаць бы іх нервы, толькі пасля гэтага супакояцца душа і косткі мае ў балотнай багне».

Перакацілася Поўня ад левай рукі здані да правай і зноў завісла над галавою, пульсуючы, пераліваючыся чырвона-чорнымі фарбамі, быццам расплаўленая лава ў жарале вулкана, які ненарокам, зусім нечакана прачнуўся ад утомнага сну.

«Памагу табе, панна, не пакіну ў самотнай адзіноце. Нагледзелася я на твае штоночныя пакуты ў незлічоных гадах стагоддзяў, — даляцела да слыху Кацярыны. — За ўсё людзі павінны плаціць у сваім жыцці. Нічога проста не даецца ім, як мне з сонцам. Ты за сябе і іншых адмарнавала, ці ж не пара сплаціць даўгі, га, князёўна?»

«Пачула, нарэшце пачула, неўміручая, усясільная, залатая Поўня, — страсянуўся, захістаўся прывід на сцяне камяніцы. — Ой, сілы неспазнаныя і нябачныя, колькі ж чакала я гэтай запаветнай хвілінкі-імгнення? Ведаюць пра тое толькі пакаленні кажаноў, якія са мною дзялілі падзямелле».

«Той, хто ўмее чакаць, заўсёды атрымлівае спаўна. Простая, здаецца, але вечная, нязменная ісціна. Праз мітуслівасць і паспешлівасць анічога трывалага не створыцца. Егіпецкія піраміды і Сфінкс пры іх ужо пяць тысячагоддзяў адстаялі, а і цяпер яшчэ ўсім волатам яны волаты. І ніколі не разгадаць іхняй тайны галовам людскім, як не зразумець той сілы і здольнасцяў, якімі надзяляю я цябе, князёўна Кацярына».

Яшчэ не заціхла ў ночы апошняе слова-шэпт, як апусціўся з Поўні на прывід промень святла сляпучага.

Здань затрапятала, быццам яе працяла наскрозь электрычным токам. Ярчэй замігцелі зоркі на небе. У гушчары лесу хорам завухкалі пугачы, да іх далучыліся совы-сіпухі, а з падзямелля замка праз вузенькія акенцы-шчыліны чарадою выляталі ў змрок піскклявыя кажаны. Яны цесна-цясненька акружылі прывід, трапяталі скуранымі крылцамі над самай галавою паненкі, але стараліся не патрапіць у промень святла, які з кожнай хвілінай усё накаляўся і мацнеў.

Кацярына раптам адчула, як у яе трапяткую тканку ўлівае Поўня цялесную цеплыню, напаўняе плоццю, а ў пальцах рук, ног, на шыі запульсавала, пацякла, пабегла гарачая кроў, праяснелі вочы. Яна ўжо можа языком аблізаць сасмяглыя губы, адчувае босымі пяткамі зямлю, нават раструшчаныя кавалачкі цэглы пад падэшвамі.

Кацярына са сваёй прывіднасці ўбіраецца ў новае цела, быццам у нядаўна скроеную сукенку. Яна проста наноў нараджаецца, дыхае, усмоктвае ў сябе п'янкія пахі лесу, дажджу, лета, мінулых зімаў і вёснаў, восеньскага жаўталісця, гарадской ліхаманкавай мітусні, якой яшчэ аніколі і не бачыла, калі не лічыць даўнейшыя ўспаміны пра Магілёў, Менск, Варшаву, Парыж. Так, яна некалі з бацькам Ладыславам там была, падарожнічала, але ж мінулі стагоддзі. Цяпер, ведае Кацярына, ужо новае тысячагоддзе захліснула зямлю, узяло ў свае абцугі-абдымкі. Усё мінае і ўсё змяняецца. І князёўна ўжо не тая, якой была да дня вяселля свайго. Яна іншая, сучасная. Поўня закладвае ў ейны мозг усю багатую інфармацыю, што назапасіла чалавецтва за бясконцыя гады Кацярынінага прывідства. У яе і свядомасць, жаданні, звычкі, нават памкненні іншыя. Начное свяціла не зачапіла толькі былой прыгажосці князёўны.

«Памятай, я адпускаю цябе ў новае жыццё, — чуе Кацярына, — але толькі на тры дні і ночы, пакуль знаходжуся ў поўнай сіле, калі ж пачынаецца сходак, ты павінна вярнуцца сюды, у падзямелле замка, бо бяссільнай зробішся, як балотны камар. Тры дні і тры ночы ў цябе, князёўна, запасу. Цешся, любіся, помсці. Чаго б ні захацела, на што б ні паклала вока сваё — будзе табе. Падумаеш, захочаш — і ўсё споўніцца. Толькі памятай, не забудзь — гэта на тыя суткі, пакуль я ў сіле. Усё, дзяўчынка мая, гуляй, ляці ў вялікі свет людскі. Я паўсюль прыглядваць за табою буду, не пакіну, каб у бяду якую не патрапіла”.

Кацярына адчувае, як Поўня заахвочвае, падпіхвае яе да гульбішча-гулянкі. Чуе словы, якія пакрысе заціхаюць, раствараюцца ў бязмежнасці нябеснага прасцягу, але ж яшчэ далятаюць да вушэй: «Не бойся, дурнічка, усё дазволена, не думай пра дрэннае, а кідайся на жыццё, быццам згаладалае дзіця на кавалак мяккага бохана. Усё атрымаецца гладка, нідзе не зачэпішся спадніцаю за востры кол, нават ніколі волас з тваёй галавы не спадзе. Ну, давай, разняволься, шырэй усміхніся, страсяні галавою, няхай косы расчэша свавольнік-вецер, расшчапі пульхна-прагныя губы. Яны ж у цябе, князёўна, ненажэрныя — неспатольна-сквапныя. Раскінь рукі ўшыркі і хапай тое і тых, хто табе даспадобы. Не стрымлівай сілы, якая, быццам кіпень, бурліць у целе. Цеш яго, запаўняй ласкамі, дай волю фантазіям, не стрымлівайся. Вось так, ага, вось так. Малайчына».

— Ого-го-го-го! — разнеслася над наваколлем. — Я жыву, адчуваю, хачу. Маё сэрца і цела перапоўнена жаданнямі!

Ад грамавога голасу юркнулі вецер з сутоннай ноччу ў далёкую лагчынуўпадзіну, якую гадоў пяцьдзесят таму асушылі меліяратары. Яны, радзімцы, дапялі нават і сюды, у балотна-лясны ку-

(Працяг на стар. 14-15)

Заканчэнне. Пачатак на стар. 1

# НАНОЎ ДА СЛОВА, ДА ДЗЕІ

***Каштоўнасць такой культурнай акцыі пераацаніць цяжка. Што сёння ставіць айчынны тэатр? Натуральна, сваіх драматургаў ды сусветных класікаў. Першыя прызвычаіліся да невялікіх ганарараў, другім яны ўвогуле ўжо непатрэбныя. А вось за кожны спектакль па п`есе сучаснай замежнай зоркі мы павінны пералічваць аўтару грошы. Тыя самыя, якіх і так звычайна кот наплакаў. Інстытут Гётэ бярэ гэтыя выдаткі на сябе. Ён вырашае і яшчэ адну праблему — моўную, перакладаючы нямецкія п`есы на беларускую мову. Так, менавіта на беларускую — фэст прынцыпова беларускамоўны. Такім чынам, прапагандуючы культуру ўласную, інстытут падтрымлівае і нашу, айчынную. Нельга не ўзгадаць, што чатыры п`есы нашых драматургаў былі перакладзены на нямецкую мову і зараз прапаноўваюцца для пастаноўкі нямецкім тэатрам. Ці выклічуць яны цікавасць да нашай культуры — пакажа час.***

***А пакуль — пакуль мы асвойваем новыя драматургічныя землі. Штосьці з таго, што турбуе жыхароў Еўрасаюза, нам здаецца незразумелым, нешта — блізкім і цікавым. Другая стылістыка, другі спосаб мыслення, філасафічнасць — усё гэта вызначае сучасную нямецкамоўную драматургію. Фэст — выдатная магчымасць для беларускіх тэатраў "трымаць руку" на пульсе сусветнага тэатральнага працэсу, які ніколі не стаіць на месцы. Калі яшчэ зусім нядаўна тэатр запаланілі кіношныя кліпавасць і спецэфекты, калі на сцэнах грунтоўна асталяваліся відэаэкраны і нават Інтэрнэт, зараз адбываецца адваротны працэс. Еўрапейскі тэатр зноў вяртаецца да акцёра, да слова, да ігры. Тэатр стаміўся ад візуальных эфектаў і зараз запрашае да дыскусіі, штурхае да роздуму, а часам і правакуе ў нечым і крытыка, і гледача.***



## ПОГЛЯД З АПОШНЯЙ СКАЛЫ

Першым на глядацкі суд вынес свой спектакль калектыў Тэатра-студыі кінаакцёра, які прадаставіў сваю пляцоўку ў якасці фестывальнай базы. Студыйцы выбралі для пастаноўкі п`есу акцёра і драматурга Вольфганга М. Баўэра. Яго п`еса "Погляд незнаёмца" атрымала прэмію Інстытута Гётэ ў галіне драматургіі, а сам Баўэр быў прызнаны лепшым маладым драматургам года. Беларускаму калектыву ўдалося перадаць цудоўную музыкальнасць п`есы, напоенай празрыстай тугой па чалавечай цеплыні. Увогуле, гэтая п`еса ніяк не стасуецца са стэрэатыпнай грувасткасцю нямецкай драматургіі, і хутчэй асацыіруецца з французскай вытанчанасцю і шармам. С. Вількін, А. Адзінцова, І. Сцяпанаў, П. Юрчанкоў-малодшы, В. Палякова і А. Кашпераў распавялі гісторыю людзей, якія згубілі жыццёвыя арыенціры, чужыя адно аднаму і ў той жа час, як паступова высвятляецца, вельмі блізкія. Акцёры выдатна справіліся з няўвыклай драматургіяй, але вось з роднай беларускай мовай часам не сябравалі, збіваючыся на русізмы.

На сцэне Тэатра-студыі побач са звычайным тэатральным рэквізітам асталяваліся рознакаліберныя каменні. На думку рэжысёра Сяргея Палешчанкова, кожны камень – своеасаблівы філосаф, маўклівы сведка чалавечай гісторыі. Дакранешся – і быццам адчуваеш ягоную энергетыку. Паводле рэжысёрскай задумы гэтыя камяні павінны былі перагукацца і з вобразам скалы, куды даведзеныя да адчаю людзі прыходзяць, каб развітацца з жыццём. Задума была цікавая, але ў спектаклі яна чамусьці не спрацавала. Камяні засталіся мёртвымі, іх засланілі жывыя людзі. Іх тайны, іх гісторыі, іх філасофія зачароўвалі, гіпнатызавалі і крыху стамлялі.

## МЕЛАДРАМА Ў ЦЫРКУ

Трапіць на гэты спектакль не члену журы і не журналісту было ой як складана. Малая сцэна Рускага тэатра відавочна не разлічана на такую колькасць настаўнікаў, сяброў, "аднакашнікаў" і іншых "балельшчыкаў", якую ёй давялося ўмясціць падчас дэманстрацыі наступнай фестывальнай пастаноўкі. Яе можна прыводзіць як прыклад удалага спалучэння маладзёвага запалу студэнтаў мастацкай акадэміі з вопытам слынных мэтраў айчыннай рэжысуры. Барыс Луцэнка і Вітаўтас Грыгалюнас разам з дыпломніцай Наталляй Кузьмянковай і навучэнцамі акцёрскага курса пад кіраўніцтвам Валерыя Мішчанчука ўзяліся ўвасобіць п`есу вядомейшага нямецкага драматурга Танкрэда Дорста пад назвай "Фернанда Крап напісаў мне гэты ліст". У гэтым спектаклі дзіўным чынам перамяшаліся сур`ёз і клаунада, пабытавая меладрама і парадаксальная трагедыя. Мы, гледачы, трапляем у сапраўдны цырк, дзе на арэне клоуны размяркоўваюць ролі і пачынаюць свой камічны расповед пра трагічную гісторыю прыгажуні Юліі і яе мужа, таго самага багача і бяздушнага ўласніка Фернанда Крапа. Ён купляе сваю будучую жонку ў яе бацькі, як каштоўную цацку. Юлія абураецца, абураецца і... нарэшце адчувае, што насуперак усяму кахае мужа! Каб дамагчыся ад гэтага набітага кашалька хоць якой-небудзь чалавечай рэакцыі, яна адважваецца на раман з пусценькім і інфантыльным графам. Раз`юшаны Крап аб`яўляе жонку вар`яткай, якому быццам бы здаецца, што яна здраджвала мужу. Тут меладрама пераходзіць у сапраўдную фантасмагорыю. Абвінавачаная ў вар`яцтве Юлія гіне, не маючы сіл на барацьбу з вар`яцтвам "нармальнага" свету. Тое, што пачыналася відачынствам, канчаецца глыбока трагедыйным фіналам, калі "злыдзень" Крап шэпча над жонкай запозненыя словы кахання. Спектакль атрымаўся яркі, насычаны арыгінальнымі рэжысёрскімі знаходкамі, аздоблены гумарам і



энергіяй маладосці, чаго часам так не хапае пастаноўкам акадэмічных тэатраў.

## НЯНАВІСЦЬ З ЛЮБОЎЮ

Трэці фестывальны спектакль – "Водбліск далёкіх маланак" па п`есе Даніеля Каля – паставіў рэжысёр недзяржаўнай "Вольнай сцэны" Валерый Мазынскі. Жылі-былі ў богам забытай нямецкай глушэчы дзве сястры, Гані і Кіці, "ва ўзросце недзе ад сарака да ста гадоў". Дзіўнаватая Кіці (Вера Шыпіла) ненавідзела тэхнічны прагрэс і сястру; змораная Гані (Люба Купрыда), якая прысвяціла сваё жыццё догляду за хворай, з апошніх сіл стрымлівала раздражненне і адваротную нянавісць. Бегчы – няма куды ды і занадта позна. Шчыльна закрыты кацёл з варывам адмоўных пачуццяў ужо гатовы быў узарвацца. Але... у цесны сястрынскі сусвет раптоўна ўрываецца бадзёрая і надзвычай гаваркая Молі Пробст (Тамара Міронава). Для яе, сучаснай жанчыны, якая "ўскараскалася на Парнас мужчынскай культуры", сустрэча з сёстрамі стала таксама незвычайнай. "Існуеш з недагаркамі пачуццяў, дажываючы да пенсіі, без дзяцей і ўжо без бацькоў, не маеш на што скіраваць раптоўныя выбухі сваёй платанічнай любові", - кажа пра сябе Молі, якая ці не ўпершыню апынулася ў зацішку і атрымала магчымасць задумацца над уласным жыццём. Раптоўная аварыя, дзякуючы якой адбылася сустрэча трох кабет, аказваецца вызначальнай – Кіці пакідае абрыдлы дом, а Гані і Молі знаходзяць адна ў другой так неабходную ім родную душу. Уражанне спектакль робіць дваістае: з аднага боку ён адштурхоўвае абсурдысцкімі сцэнамі накшталт мёртвага бацькі, які з замілаваннем калыхае Кіці, з другога – прыцягвае актуальнымі і для нас праблемамі духоўнай адзіноты, патрэбы ў каханні. "Водбліск далёкіх маланак" аказаўся найбольш блізкім і зразумелым для нашага гледача. Будзем спадзявацца, што яго чакае доўгае сцэнічнае жыццё, а тройку цудоўных актрыс – нязменнае глядацкае захапленне. Дарэчы, падчас фестывалю яны выклікалі павагу не толькі выдатнай ігрой, але і мужнасцю: увесь фінал актрысы заставаліся ў адных пеньюарах – і гэта пры тым, што ўсе прысутныя ў зале мерзлі нават у футрах.



## ТАНЕЦ ЗГУБЛЕНЫХ ДУШ

Спектакль "Тузы" ў пастаноўцы Віталя Баркоўскага яшчэ да пачатку фестывалю быў яўным фаварытам, і таму быў пакінуты "на дэсерт" – на самы канец фестывальнай праграмы. Паводле апытання 45 нямецкіх тэатральных крытыкаў п`еса пісьменніка, перакладчыка і драматурга Урса Відмара "Тузы" была прызнана лепшай п`есай 1997 года, а таксама ўзнагароджана Мюльгаймскай прэміяй за драматургію. У трактоўцы Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Якуба Коласа п`еса набыла яшчэ адну назву — "Танец згубленых душ". На падставе быццам бы звычайнай гісторыі людзей, былых "тузоў", якія засталіся без працы і з дапамогай "новай кампаніі падтрымкі" імкнуцца пазбавіцца разгубленасці і незапатрабаванасці, лідэр айчыннага тэатральнага авангарда Віталь Баркоўскі зрабіў стыльны ансамблевы спектакль. Віцябчане прывезлі на фестываль спектакль, дзе чужыя нам праблемы беспрацоўных "босаў" ператвараюцца ў роздум над марнасцю паўсядзённай мітусні і кар`ерных клопатаў. Праблема прыватная аказваецца падставай для разгляду праблемы куды больш шырэйшай. "Што ёсць жыццё чалавечае — функцыя альбо сэнс?" — пытаецца рэжысёр у грамадства. – "Чалавек з пункту гледжання чалавечай культуры і прыроды запраграмаваны і выяўлены як істота духоўная, але цывілізацыя выкарыстоўвае яго як функцыю. Ён – істота сацыяльная, але як толькі яго функцыянальнасць канчаецца, чалавек – як носьбіт функцыі – становіцца непатрэбны". Па-ранейшаму, Баркоўскі – гэта паўтаральнасць рухаў, бездакорная зладжанасць акцёрскага калектыву і мінімум дэкарацый – на чорнай сцэне толькі восем крэслаў для апранутых у белыя дзелавыя касцюмы герояў. Над усім уладарыць рытм механічных рухаў, якія перапыняюць толькі з`яўленні Невядомага. Ён праходзіць праз застылы на хвіліну натоўп і пільна ўглядаецца ў асветленыя ліхтаром твары. Так і сам спектакль на гадзіну выхоплівае гледача з паўсядзённасці і прымушае зазірнуць у глыбіні ўласнай душы. Пакуль не позна, пакуль "цывілізацыя не вынішчыла саму аснову жыцця".

***Журы, у якое ўвайшлі гаспадыня фестывалю, дырэктар Інстытута Гётэ ў Мінску фрау Хайке Мюлер, намеснік начальніка ўпраўлення мастацтваў Міністэрства культуры Вацлаў Валадзько, доктар мастацтвазнаўства Рычард Смольскі, вядомыя крытыкі Таццяна Арлова і Таццяна Команава, галоўны рэдактар часопіса "Мастацтва" Вадзім Салееў і драматург Алена Папова, у вызначэнні лепшага спектакля было аднадушным. Ім сталі "Тузы" Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Якуба Коласа. Прэмія за лепшую рэжысуру трансфармавалася ў прэмію за яркі рэжысёрскі дэбют і была аддадзена дыпломніцы Наталлі Кузьмянковай за спектакль "Фернанда Крап напісаў мне гэты ліст". А вось уладальніка прыза за лепшую мужчынскую ролю журы вырашыла не называць — і сапраўды, мужчынскія ролі ў фестывальных п`есах аказаліся малавыразнымі. Затое выдатных жаночых роляў было шмат. І лепшымі былі прызнаны адразу дзве актрысы, якія стварылі яркія вобразы сваіх гераінь: Тамара Міронава за Моллі з "Водбліску далёкіх маланак" і Вера Палякова за сваю цёзку Веру са спектакля "Погляд незнаёмца". Акрамя таго, двое выканаўцаў галоўных роляў у спектаклі "Фернанда Крап напісаў мне гэты ліст" — Алег Коц і Марына Дзянісава — атрымалі права наведваць курсы нямецкай мовы, што ладзіць у Мінску Інстытут Гётэ. Будзем спадзявацца, што новаму пакаленню тэатральных творцаў дзякуючы такім праектам будзе куды прасцей паразумецца са сваімі заходнімі калегамі, а таксама не губляць сувязі з сусветным тэатральным працэсам.***

**Юлія ПАЛАЧАНІНА**

*НА ЗДЫМКАХ: сцэны са спектакля "Погляд незнаёмца".*

**Фота Г. ЖЫНКОВА**

«Літарт" — мастацтва літары. Выстава з такою назваю ўжо чацвёрты раз праводзіцца ў Мінску. "Хросны бацька" гэтай з'явы вядомы майстар каліграфіі, да нядаўняга часу выкладчык Беларускай акадэміі мастацтваў Павел Семчанка. Мастакі, якія аб'ядналіся вакол яго і ягонай ідэі, можна сказаць, сцвердзілі новы для беларускага мастацтва напрамак. Яны здолелі давесці да гледачоў тую ісціну, што літара — рэч самакаштоўная, самадастатковая; што праз характар шрыфту выяўляецца вобраз часу. Шрыфт можа быць люстэркам эмоцый і пачуццяў. Відаць, кожны сутыкаўся з сітуацыяй, калі набраны не тым шрыфтом тэкст не ўспрымаецца, "не чытаецца", амаль што губляе сэнс.

У трох папярэдніх выставах бралі ўдзел вядомыя мастакі, выдатныя майстры станковай і кніжнай графікі. Ды і гэтым разам выстава прадстаўнічая: Уладзімір Даўгяла, Уладзімір Лукашык, Генадзь Мацур, Руслан Найдзен, Уладзімір Правідохін, Усевалад Свентахоўскі, Павел Семчанка, Юрый Тарэеў, Уладзімір Цярэнцьеў. Яны прадстаўляюць розныя пакаленні, розныя характары, рознае разуменне неабсяжнай з'явы пад назвай "Літара".

Дзевяць аўтараў для невялікай залы Музея сучаснага мастацтва — дастаткова. Тым больш, што яны фактычна прадстаўляюць увесь спектр мастацтва шрыфту, мастацтва літары. Мастакі звяртаюцца да філасофскіх вызначэнняў; да слоў, які маюць сакральны сэнс. УЛАДА, СВАБОДА, ІНДЫВІДУАЛЬНАСЦЬ, НЕБА, ЗЯМЛЯ... Шрыфт як сапраўднае мастацтва мусіць быць адбіткам рэальнага жыцця і жыццёвых праблем.






Фота Кастуся ДРОБАВА



**ЮРЫЙ ТУРЭЕЎ**



Каліграфічная прастора.
*Змешаная тэхніка, 2002*

# УДЫХНУЦЬ У ЛІТАРУ ДУШУ

У сваёй кнізе "Мелодыі каліграфа" Павел Семчанка выказаў думку, што гэты від мастацтва не прыносіць мастаку вялікай славы і вялікіх грошай, але без каліграфіі культура не поўная. Таму што вербальная і графічная мовы існуюць паралельна і ўплываюць адно на другое. "Як гаворым, так і пішам, і наадварот. Усё залежыць ад таго, як шануем слова, думку".Для ілюстрацый гэтай думкі нагадаем, што яшчэ напачатку мінулага стагоддзя беларуская мова скарыстоўвала і лацінку, і кірыліцу. Адно і тое ж слова ў залежнасці ад шрыфту набывала розныя адценні. Уласны алфавіт — гэта магчымасць захавання нацыянальнай тоеснасці. Моцныя ў культурніцкім, эканамічным і палітычным сэнсе азіяцкія краіны Кітай і Японія дагэтуль трымаюцца сваіх іерогліфаў. А В'етнам, чыя вага ў сусветных справах значна меншая, і культурніцкі ўплыў Еўропы (у асобе Францыі — былой метраполіі) значна большы, прыняў лацінскі алфавіт. І не бядуюць. За ўласную мову і ўласны алфавіт трымаецца Ізраіль. Здавалася б, гэта насуперак здароваму сэнсу, бо ізраільская нацыя ў немалой ступені складаецца з эмігрантаў, якім мова англельская ці руская значна бліжэй іўрыту. Ды і зарыентаваны Ізраіль на Еўропу. Але менавіта гэтая адданасць традыцыі робіць натоўп людзей нацыяй.

Мова — сродак камунікацыі, літара — візуальны сімвал гука. Глабалізацыя цягне за сабою уніфікацыю. Мы таксама не знаходзіцца ў баку ад гэтага працэсу. Так што, магчыма, даволі хутка перад намі паўстане пытанне, які алфавіт скарыстоўваюць для беларускай мовы. Звыклую, але ўсё ж недасканалую кірыліцу, кірыліцу з элементамі лацінкі, лацінку. Зыходзячы са спецыфікі нашай культуры і гісторыі, для апраўдання якога заўгодна рашэння можна знайсці навуковыя аргументы. Кірыліца — гэта летапісы, статут Вялікага Княства Літоўскага, кнігі Скарыны. Лацінка — "Мужыцкая праўда" Каліноўскага, творы Багушэвіча ды іншых нацыянальных дэмакратаў.

Выставы кшталту "ЛітАРТ" патрэбны не толькі шчыльнаму колу мастакоў, занятых у каліграфіі, але шырокай грамадзе. Бо час ад часу нам усім трэба вяртацца да вытокаў, да каранёў. А, як вядома, напачатку Слова. За Словам — літара.

**П. ВАСІЛЕЎСКІ**





**УСЕВАЛАД СВЕНТАХОЎСКІ**

Ініцыял.
*Папера, аловак, 2001*

**УЛАДЗІМІР ЛУКАШЫК**



Урбі.
*Камп'ютэрная графіка. 2002*






**УЛАДЗІМІР ЦЯРЭНЦЬЕЎ**

Літары.
*Фатаграфіка. 2002*



# ГРАЙ, МАЯ ЖАЛЕЙКА!

"Якія ў вас цудоўныя дзеці!" — сказала мне неяк пры сустрэчы пра вучняў нашай школы загадчыца навукова-асветніцкага аддзела Літаратурнага музея Янкі Купалы Людміла Сцяпанаўна Давідоўская. Нельга быць не ўдзячнай за такія цёплыя і шчырыя словы ў адрас вучняў гэтай добрай і абаяльнай жанчыне, якая сваім энтузіязмам, эрудыцыяй робіць так шмат для нашай агульнай справы. А агульная справа — гэта работа сярэдняй школы № 19 і Літаратурнага музея Янкі Купалы па ўшанаванні народнага паэта.

Дарэчы, сярэдняя школа № 19 знаходзіцца недалёка ад плошчы Якуба Коласа. І гэты факт цікавы тым, што менавіта Якуб Колас пасля наведвання разам з Уладзіславай Францаўнай Луцэвіч у 1945 годзе школы паклапаціўся, каб праз некаторы час пастановай Савета Міністраў БССР школе было нададзена імя Янкі Купалы.

Дзякуючы намаганням і карпатлівай працы дырэктара школы Валянціны Аляксандраўны Александровіч, выкладчыкаў беларускай мовы і літаратуры, і сёння свята зберагаюцца, працягваюцца традыцыі па ўшанаванні творчай спадчыны паэта. Асабліва добры плён прынесла сумесная праца школы і Літаратурнага музея Янкі Купалы ў апошнія гады. Запомніліся два рэспубліканскія конкурсы, якія праводзіў Міжнародны фонд Янкі Купалы і Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы. Радуе, што нашы вучні занялі першыя месцы ў чатырох намінацыях: на лепшы верш, сачыненне, малюнак, песню! Школа была ўзнагароджана дыпломам міжнароднага фонду.

Верасьнёўскай творча-краязнаўчай экспедыцыяй у слынныя купалаўскія Акопы пачынаўся для нас новы навучальны год, а вечарынай "Грай, мая жалейка", што адбылася 27 снежня ў музеі Янкі Купалы па выніках паездкі, заканчваўся юбілейны год паэта.

Уражанняў ад паездкі было шмат. Людміла Сцяпанаўна Давідоўская, якая суправаджала вучняў школы ў час экспедыцыі, распавядала пра кожны куточак, дзе ступала нага паэта, старалася не прапусціць ніводнай дэталі. І прырода ёй нібы дапамагала ў гэтым. Дзеці былі заварожаны прыгажосцю мясцін, нейкай незвычайнай цішынёй і спакоем, чысцінёй і святлом, якое асвятліла іх душы. І тая заўвага скептыкаў, што матэматыкам (школа ў нас з матэматычным ухілам) літаратура нецікавая, не апраўдала сябе: сярод матэматыкаў знайшліся і паэты, і мастакі, і кампазітары, і проста вучні, якім падабаецца беларускае слова, якія з гонарам называюць сябе беларусамі. На сённяшні дзень у школе працуе літаратурны гурток "Натхненне", які выдае газету "Вытокі".

На вечарыне "Грай, мая жалейка" прагучалі вучнёўскія творчыя работы Алесі Сіўчыкавай, Рэгіны Грыневіч, Антаніны Руткоўскай, Ганны Бадзяевай, Мікіты Цеплавухава, Мікалая Зянько, Тані Лук'яненкі, Яўгена Казлоўскага, Аляксандры Іванчык, Яўгена Пруса.



*Вучаніца СШ № 19 Марына Пыркова дзеліцца сваімі ўражаннямі падчас экспедыцыі ў Акопы.*

Перад вучнямі і іх настаўнікамі выступіў паэт Віктар Шніп, зямляк Купалы, які расказаў пра тое, як знітаваў яго лёс з родным словам, якой з маленства запамінальнай на ўсё жыццё стала першая сустрэча з хатай Песняра ў Вязыньці.

Раней нашы былыя вучні любілі прыходзіць у музей Янкі Купалы, у госці да "цёці Уладзі" (так называлі дзеці Уладзіславу Францаўну), каб заадно і прачытаць ёй свае напісаныя вершы. І мне падумалася ў час вечарыны, як добра, што сёння вучні не абрываюць гэтую нябачную сувязь пакаленняў, а прыйшлі прачытаць свае вершы і "цёці Уладзі", і Янку Купалу.

Чытачам "ЛіМа" прапаную творы нашага літаратурнага гуртка "Натхненне".

**Іна ШАПКОВА,**
**настаўніца беларускай мовы і літаратуры СШ № 19 імя Янкі Купалы г. Мінска**

# ПАДАРОЖЖА Ў СВЕТ ПАЭЗІІ

"Якая ўсё ж такі прыгожая назва — Акопы", — падумала я, едучы з групай дзяцей з нашай школы ў Акопы. Не, вы толькі не падумайце, што Акопы — гэта месца баявых дзеянняў вайскоўцаў. На самай справе гэта творчая калыска Янкі Купалы.

Знаёмства з купалаўскімі мясцінамі ў нас пачалося з Даўгінаўскага шляху, па якім калісьці хадзіў Купала з Акопаў у Мінск (зараз гэта раён вуліцы Старажоўскай). Я не ведаю больш прыгожага і маляўнічага месца, чым Лагойшчына, якую нават называюць беларускай Швейцарыяй! А менавіта праз яе праходзіць Даўгінаўскі шлях.

Пакуль мы былі зачараваныя цудоўнымі пейзажамі, наша экскурсавод расказвала аб сядзібах і вёсках, якія звязаны з імем Купалы. Напрыклад, нам пашчасціла ўбачыць сядзібу Казіміраўка Уладзіміра Самойлы, які дапамог Купалу падрыхтавацца да ўступных выправаванняў у народнае вучылішча і паехаць у Пецярбург. Шлях наш пралягаў праз Сёмкава і Бараўцы, Астрашыцкі Гарадок і Жукаўку, дзе рабіў свае першыя крокі ў літаратуру паэт.

А вакол усё тая ж прыгожая Лагойшчына. Зямля квітнее лісцем: чырвоным, ружовым, залацістым. І навокал адчуваецца подых восені.

Нарэшце аўтобус спыняецца і мы выходзім. Здзіўляе тое, што лётае вялікая колькасць вераб'ёў. Зразумеўшы наш здзіўлены позірк, экскурсавод патлумачыла, што гэтых птушак можна сустрэць толькі ў месцах з вельмі добрай экалогіяй.

Перад намі ва ўсёй красе Акопы — на самай справе вельмі прыгожае месца, па якім, як нам падалося, ніколі не ступала нага чалавека. Але мы памыліліся...

Колісь гэта быў фальварак заможнай пані, якая вельмі любіла наладжваць тут балі. Праз некаторы час Акопы арандавала маці Купалы, вельмі суровая, але разумная жанчына. Да нашых часоў, на жаль, захаваўся толькі падмурак хаты. Але ўражанняў ад гэтага цудоўнага месца з прасторнымі палямі і дзіўнымі лясамі ў нас было столькі, што мы ўжо згодны былі вяртацца ў Мінск.

Але нас чакаў прыемны сюрпрыз. Аказалася, што ўсё толькі пачынаецца. Мы не заўважылі маленечкай сцяжынкі, якая вяла праз стары масток да "Матчынага поля", вялікага поля з шыкоўнымі старажытнымі дубамі.

Цяжка апісаць усю прыгажосць той мясціны! На шчасце, за мяне гэта зрабіў Купала ў сваіх шэдэўрах: "Бандароўна", "Магіла льва", "Паўлінка", "Раскіданае гняздо", "Тутэйшыя" і ў васьмідзесяці вершах.

Ясна паўстае перада мною малюнак квітнеючага поля і Купала, які сядзіць на камені, сімвале святасці і мудрасці, і прысвячае сваёй каханай Паўліне Мядзёлцы паэму "Яна і я".

А тым часам наша экскурсавод распачала свой аповед аб тым, наколькі Купала любіў называць свае творы песнямі і як ён марыў, каб у кожны дом увайшла яго песня — чыстая і мілагучная паэзія.

На жаль, час ішоў, і мы мусілі ехаць у Харужанцы — яшчэ адзін музей Купалы. Я не ведаю, з чым звязана тое, што мне не вельмі спадабаліся Харужанцы, хаця менавіта яны былі абраны пісьменнікамі для святкавання 120-годдзя з дня нараджэння класіка. Магчыма, я проста адчувала, што ўсё тут штучнае і мала чаго засталося некрануты пасля смерці Купалы. А, можа, мяне проста вельмі ўразілі Акопы. Але не гэта галоўнае. Галоўнае тое, што мы пабылі ў купалаўскіх мясцінах, адчулі іх прыгажосць і энергетыку. А яшчэ, скажу па сакрэце, я з Ленай, маёй сяброўкай, пасядзела на каленках у...Янкі Купалы. Праўда, гэта быў помнік паэту.

Я спадзяюся, што гэтая паездка пакіне след не толькі ў маім сэрцы, але і ў сэрцах маіх сяброў, разам з якімі я ездзіла. І мы яшчэ доўга будзем узгадваць гэтыя незабыўныя хвіліны нашага маленькага падарожжа ў свет паэзіі.

**Алеся СІЎЧЫКАВА, 11 "А" клас.**

### АКОПЫ

*Сцежка бяжыць, падмосткі старыя,*
*Лес багаты на золата ўвосень.*
*Прастор поля*
*узгорак адкрые,*
*Дзе толькі два дрэвы стаяць,*
*нібы госці.*

*Неба сумнее, вецер мацнее,*
*На гэтым вельмі старым пагосце,*
*Расліны памяці тут зелянеюць,*
*Быццам расказваюць*
*нам пра штосьці.*

*Шапочуць, шапочуць*
*яны аб мінулым,*
*Бо ўсё жыццё правялі ў адзіноце.*
*І толькі ён тут маўчыць панура,*
*Вялізарны камень, адданы самоце.*

*Ляжыць ён дайно, не забраны зямлёй,*
*Яму аб жыцці гаманіць не прыстала,*
*Мармурная дошка на ім, а на ёй —*
*Маленькі верш і подпіс "Купала"...*

**Антаніна РУТКОЎСКАЯ , 11 "Г" клас.**

### ЗОРКА-КВЕТКА

*Ах, каб зорачку з неба дастаць,*
*І на грэшнай зямлі пасадзіць!*
*Калі шчасцем яе паліваць*
*І ад лютых вятроў бараніць,*
*Вырасце з зоркі чароўная кветка,*
*Будзе ўночы, як месяц свяціць,*
*Будзе людзей зімой і ўлетку*
*Сваім харастовом*
*незвычайным дзівіць.*
*Нараджаецца цуд той далёка,*
*У краіне шчырых надзей.*
*Да яго не дастанеш — высока,*
*А цвіце ён у сэрцах людзей.*
*Калі ты заблукаеш уночы,*
*Ці забудзеш, кудою ісці,*
*Успомні пра кветку,*
*заплюшчыўшы вочы,*
*Яна дапаможа шлях свой знайсці!*
*Я вазьму гэту кветачку-ззянне,*
*Будзе добра ёй на далані,*
*Хай тваё яна споўніць жаданне,*
*Ад сябе толькі прэч не гані...*

**Ганна БАДЗЯЕВА, 11 "Б" клас.**



*Надзея Шаўрук і Мікіта Цеплавухаў выконваюць песню, прысвечаную Янку Купалу.*

**Фота Сяргея ЛУК'ЯНАВА**

### ЛЮБЛЮ ВЯСНУ

**Янку Купалу**

*Люблю вясну!*
*Люблю вясновы дзень!*
*Калі усё навокал расцвітае,*
*Калі зіма нас пакідае.*

*Зноў ясна свеціць сонейка,*
*І пачынаюць ландышы цвісці,*
*Паліўся першы дожджык,*
*І хочацца па лужынах прайсці.*

*Люблю вясну!*
*Люблю той час, калі ўсё ажывае!*
*І не магу без гэтых месяцаў:*
*Сакавіка,*
*красавіка*
*і мая!*

**Наталля БАЧЫШЧА, 6 "А" клас**

### НА "МАТЧЫНЫМ ПОЛІ"

*Тварыў Купала ў гэтым месцы,*
*Дзе поле, лес і цішыня,*
*Дзе колісь падала у вясну*
*У раллю пшанічнае зярня.*

*Мае пачуцці, іх нямала...*
*Купалаў камень я абняў,*
*І ў "полі Матчыным" Купала*
*Мне родны край наш паказаў.*

*Калі спытаецца хто раз:*
*"Што добрага табе жыццё давала?"*
*То вы пачуеце ў адказ:*
*"Я быў там,*
*дзе тварыў Купала!"*

**Яўген ПРУС, 11 "А" клас**

## ПА АДУКАЦЫІ — ГІСТОРЫК

### ІВАНУ АНОШКІНУ — 75

**21 студзеня пісьменніку Івану Аношкіну споўнілася 75 гадоў. А нарадзіўся Іван Архіпавіч у 1928 годзе на Магілёўшчыне — у вёсцы Антонаўка Чавускага раёна. Закончыў Антонаўскую сямігодку і Суражскае педагагічнае вучылішча, якое знаходзіцца на Браншчыне. Па адукацыі — гісторык: у 1964 годзе завочна скончыў Магілёўскі педінстытут. Працаваў выхавацелем Далісліцкага дзіцячага дома (Бранская вобласць), адказным сакратаром суражскай раённай газеты "Маяк коммуны" (1947—1948). Быў загадчыкам Мышчыцкай пачатковай школы Жабінкаўскага раёна на Брэстчыне, адказным сакратаром мясцовай раённай газеты "Ленинский путь", карэспандэнтам абласной газеты "Заря". У 1956 годзе закончыў Рэспубліканскую партыйную школу пры ЦК КПБ. Затым працаваў рэдактарам у чэрыкаўскай раённай газеце "Сацыялістычная перамога". Літсупрацоўнік (з 1959), пасля загадчык аддзела абласной газеты "Магілёўская праўда" (з 1968). Сябра Саюза пісьменнікаў з 1965 г. З 1981 года з'яўляўся сакратаром Магілёўскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў.**

**Друкаваў свае першыя творы — замалёўкі і фельетоны — у раённых газетах і часопісе "Вожык", пачынаючы з 1951 г. Выдаў некалькі зборнікаў гумарэсак, апавяданняў: "Лішні мінус", "Старыя знаёмыя", "Навічок", "Алёнчын сакрэт", "Брантазаўр", "Антонаў ясень", "Херувім з чорнымі крыламі", "Курам не да смеху" і інш. Акрамя таго, Іван Аношкін — аўтар выдадзеных асобнымі кнігамі аповесцей: "Компас паказвае на захад", "Чырвоная каліна стаяла", "Землякі" — аповесць і апавяданні. Напісаў ён і нарыс пра Героя Сацыялістычнай Працы А. Анюхоўскую "Так загараюцца зоркі". Жыве Іван Архіпавіч у Магілёве, цяпер на пенсіі.**

**Рэдакцыя штотыднёвіка "Літаратура і мастацтва" віншуе Івана Аношкіна з 75-годдзем, зычыць юбіляру здароўя, натхнення і ўсяго самага найлепшага! А галоўнае — ніколі не страчвайце і надалей пачуцця гумару! Бо, як вядома, уменне пасмяяцца з сябе ды іншых — паказчык духоўнага і душэўнага здароўя...**

**С. Я.**



### УДАКЛАДНЕННЕ

Шаноўныя чытачы, у папярэднім нумары тыднёвіка па недаглядзе рэдактара была допушчана грубая памылка. У матэрыяле ЛеГала да юбілею Ірыны Жарнасек прозвішча аднаго з ксяндзоў-марыянаў было пададзена як Антоні Ляшчэня, тады, як правільна трэба — Антоні Ляшчэвіч. Просім прабачэння.

**Рэдакцыя**

# І ЯНА АЖЫЛА...

**(Заканчэнне. Пачатак на стар. 9)**

точак зямлі магілёўскай. Нават часткова асушылі, абязводзілі краёчак Топкага балота, паўз які дрывасекі спляжылі магутныя елкі, а вялізныя і магутныя машыны вывезлі хлысты ў нябачны і невядомы свет. Цяпер паўсюль тут дзялянкі, якія бязладна зараслі непралазным асіннікам ды бярозкамі. І балота зараз ужо не такое страшнае для жыхароў навакольных вёсак. Па асушаных берагах Топкага густа распоўзся журавіннік, купінамі пацягнуўся ўвышкі багун дурнап'яны. Але ўсярэдзіне, у самай сарцавіне тваністай і задушлівай каламуці, на іншай ужо сухастоіне, дажываў свае дні вечны крумкач. Пабудзіў, расштурхаў яго неспакойны, старэчы сон Кацярынін голас. А з таго месца, недалёкага ад жытла птушкі, дзе ў багне ляжыць бяздушнае цела князёўны, вырваўся смярдзючы фантан ліпкай жыжыцы. Ён уздыбіўся вышэй макавак-макушак бліжэйшых сухастоін. І завіс, быццам падвязаны, на некалькі доўгіх хвілін, а пасля неахвотна, нібы працівячыся некаму нябачнаму, паволі апусціўся на сваё ўляжалае месца. Балота заціхла, а з глоткі крумкача, з-пад самага валляка, выціснуўся прыглушана-сіпаты ўздых.

«Вось і дачакаўся той хвіліны, якой дужа баяўся. Эх вы, людзі-людзі, заўсёды шукаеце вострае верацяно для сваіх жа сядалішчаў. Шкода, што не дажыў да гэтай ночы сябрук-пугач. Ён так і не паверыў мне, што вернецца Кацярына ў людскую грамаду. І схопіць жыцця ў крэдыт. Усяго, чаго не далі ёй спазнаць у далёкія і даўнія гады. Колькі ж бязвінным сапсуе яна іх лепшыя дні, узбаламуціць кроў, прымусіць плакаць і пакутаваць, спляце рэзгіны з іхніх нерваў, а ўкласці, даць узамен нічагусенькі не зможа. Апустошыць іхнія сэрцы Кацярына, ах, як яшчэ апустошыць... А можа, я памыляюся? Можа, спарахнела, спрахла ў ёй помслівасць. І ніякага паскудства для другіх ад яе не будзе? Здагадкі, адны здагадкі. Не магу я ўжо глядзець уперад на гады, нават на месяцы. Блытаюцца думкі, расплываюцца, як у густым тумане, малюнкі будучага, таго, чаго яшчэ не было, але якое здзейсніцца. Так-так, усяму віною старасць. Заўтрашняе зачынена для мяне шчыльнымі дзвярыма, якія не ссунуць з месца і на танюткую павуцінку. Застаецца адно: жыць успамінамі. Эх, пугач-пугач, табе добра, бо і косці перацёрты ўжо зямлёю, а я ўсё яшчэ застаюся сведкаю людскіх узлётаў і падзенняў, войнаў і нястач. Толькі на хаўтурах і магу пакружляць у небе, распраміць крылы і не пачуць пра сябе ганебных слоў, не адчуць спапяляльных людскіх позіркаў. Бо ў такія хвіліны ім не да мяне. Раней не верылася, як жыццё можа здавацца непасільным цяжарам. Шкада, што гэтага не ведае Кацярына. Ой, як шкада, мой ты сябрук-пугач. Не змог я пасля тваёй канчыны ні з кім так блізка сысціся. А ўрэшце, сапраўды, каму патрэбны дужа дасведчаны старац? Знаёмства з такім, як я — не радасць, а непамерны цяжар. Жыццё ж і цікавае сваёй невядомасцю. Для другіх, канешне, але не для мяне. І не для Пёклы, ранейшай. Душа яе цяпер без супынку смалу возіць у пекле. Ды і мне, відаць, знойдзецца месца не ў птушыным раёчку, нават не на скрызняковым, няўтульным краёчку. Ані, столькі бяды. Блытаюцца думкі, блытаюцца. А Кацярына нарадзілася наноў. Поўня таму віною. Не любіць яна род людскі, нават ноч яе баіцца, у служках ходзіць. Але няхай. Няхай будзе так, як і павінна быць. Усё роўна не разгадаць мне ўсіх загадак. Лепей падрамаць, адчуць сябе ў сне маладым, здаровым і ўсясільным. Мінулае — мой скарб, а будучае — пацёмкі. Вось так яно, вось так», — Крумкач прыплюснуў і змружыў стомленыя вочы. Бяльмістая плёнка-павека зацягнула выцвілыя зрэнкі вечнага птаха...

А сярод сухастоін мільгалі расплывістыя цені, яны, нібы абтрапаныя космы льну, чапляліся за хрусткія галіны, апускаліся па абяскораных камлях дрэў на паверхню балота, збіраліся ў клубкі і падскоквалі зноў увышкі, ад штуршкоў бурбалак, якія лопаліся на тваністай паверхні Топкага. Вось і зараз, адзін з вялікіх клубкоў-ценяў, што нагадваў навальнічнае воблака, адштурхнуўшыся магутным паветраным шарам ад бурбалкі, якая з шыпеннем трэснула над балотнай каламуццю, памкнуўся на сухастоіну з гняздом крумкача. Воблачка ценем, быццам котка на паляванні, асцярожна падпаўзала да жытла старога хаўруснага птаха без перасілкаў, з лёгкасцю агарнула кубло гнязда і, пяшчотна праціскаючыся між пераплётаў галінак, пруткоў ды карэньчыкаў — накрыла сваёю здушлівай лагодаю дзюбастую галаву і вылінялае цела крумкача. Ён нават не шалахнуўся, не ўстрапянуў знямоглымі крыламі, а ўдыхнуўшы атруты, ціхенька, нікому не назаляючы і нікога не трывожачы, перайшоў ад рэальнага сну — у сон вечны. Дзюба ўткнулася ў перацёртую пацяруху травы, якая хавала пад сабою кіпцюры абяздушанага ўжо птаха...

— І ўсё ж страшна. Як страшна, Уладарка ты мая. — На змену шырокай, на ўсе грудзі, радасці Кацярыну раптам апанавала супярэчлівая няўпэўненасць. — Як жа не баяцца і не палохацца, калі адчуваю біццё сэрца, прахалоду начнога паветра на скуры, расу пад нагамі. Я ўжо не прывід, якога палохаюцца людзі больш, чым ненажэрнага, усёпаглынаючага пажару. Я зноўку жанчына. Але ж, не! Не паспела яшчэ стаць жанчынаю, не далі зведаць гэткага шчасця. Цнатлівіцай пайшла ў бяздонне прорвы, але, я думаю, што ёю і вярнулася ў сённяшні час. Здань жа не можа згубіць цнатлівасці, нават і з нячыстай сілаю. Ведаю, што так яно і ёсць. Які жах — застацца дзяўчынаю праз стагоддзі з нявыцалаванымі вуснамі і неспатоленай прагаю жаданняў. Хачу кахаць і быць каханай. Як раней, пры Севаладзе. Мне трэба жывое мужчынскае цела. Мускулістае, прагна-пажадлівае. Я даўно саспела для любові. Бязмежнай і неабдымнай, ад якой тупее мозг, а сэрца мядовай слодычча сцякае. — Кацярына сагнулася пытальнікам, заціснула далоні рук між каленяў. Яна на хвіліну замерла ў такой позе. Пачуцці і жаданні варам залілі ўсю яе істоту. Князёўна прыслухвалася сама да сябе і ніяк не магла зразумець, разабрацца ў супрацьлеглых меркаваннях, што клекаталі, перапаўнялі ейнае цела. Так часта бывае з людзьмі, якія пасля страты прытомнасці пры фізічных перагрузках, вярталіся да існасці. У першыя хвіліны чалавек быццам знаходзіцца ў ірэальным свеце, бо нітка думак, што звязвала яго з папярэднім — парваная, а новая, якая злучыць з цяперашнім імгненнем, — яшчэ не паспела спрасціся. Вось ён у бяздумнасці і скамянеў, застыў, быццам лядзяш на страсе.

— Мне прыемна гаварыць і чуць свой голас. Ён такі незвычайны. Я бачу вачыма кожнае слова, што злятае з маіх губ. Аказваецца, што словы такія ж матэрыяльныя, як і ўсё навакольнае, на чым спатыкаецца позірк. Словы маюць колер, форму — во дзіва дык дзіва. Раней жа такога не было. Гэта памятаю выдатна. А цяпер кожнае слова жывое, як жывая і я сама. Цуд, проста цуд, якога пакуль яшчэ не разумею і не магу ўсвядоміць. Але ўсяму свой час. Не трэба спяшацца. Раней гаварылі так: прыйдзе дзень і знойдзецца, што паставіць на стол...

Для мяне ж найгалоўнейшая цяпер задача — знайсці нашчадкаў Севалада і Марфачкі. Пашлыкатаць іхнія нервы, нацешыцца болем, які прынясу я ім. Той гульнёю святла і ценяў, што ўмела ствару, спляту вакол іх. Не, крыві я не хачу. Навошта? Тое ўжо для вампіраў няхай застанецца, калі яны яшчэ не перавяліся. А я — былы прывід, і мне не патрэбна чужая кроў. Нашмат цікавей падпілоўваць нервовую вязанку ў чалавеку, па цаглінцы разбураць псіхічны падмурак... Ого, як шмат уліла ў мяне Поўня жорсткасці! Толькі ж за ўсё трэба плаціць, кожную хвіліну, штодня. Гэта, відаць, адзін з непарушна-страшных законаў людскога быцця. Раней я ніколі над такімі пытаннямі не задумвалася, а дарэмна. Можа, і не ляжала б тады столькі часу ў багне Топкага балота. Але, не трэба спяшацца. Пажывем — пабачым. Хоць і часу адведзена мне з камарыны нос. А ісціна заўсёды ляжыць пасярэдку. Не трэба кідацца як зачумленая ў розныя крайнасці. Адно я ўсвядоміла цвёрда: няма смерці ў такім разуменні, у якім успрымаюць яе большасць народжаных і жывучых пад бясконцым небам. Няма і самога жыцця, а існуе імгненне, знічка, што віруе у бясконцым коле, замкнёным у самім сабе. Мы ж штодня нараджаемся і паміраем, праўда, толькі не заўважаем гэтага. Мозг не хоча траўмаваць душы чалавечай, ён напаўняе людское быццё драбнюткімі дробязямі, якія ўспрымаем мы, як жыццё, хоць яно і не з'яўляецца сутнасцю... Вось закруціла, дык закруціла! І адкуль? навошта? з'яўляюцца такія думкі! Над імі я ж ніколі не ламала галавы. Відаць, гэта Поўня, маці мая, што нарадзіла зноўку, дала і такое разуменне, каб прасцей адносілася я да ўсяго, што будзе траплядца на нязведанай дарозе. То яно і добра. Няхай так і застаецца.

Але ж я магу перамяшчацца, як захачу і куды пажадаю. Я — магніт для нашчадкаў Севалада і Марфачкі, а яны ўсяго толькі жалезныя вінцікі, што павінны, па маім жаданні і ахвоце, ліпнуць, цягнуцца да мяне. — Кацярына выструнілася, цясненька прытуліла рукі да грудзей, перапляла пальцы і, набычыўшы ўперад галаву, заплюснула вочы.

Не паспела б нават дагарэць запалка, як яна, князёўна, ужо стаіць на вымашчаным узорыстай пліткай тратуары вялікага горада. А руіны Асінаўскага замка засталіся ў далёкай далечыні, сярод балотаў і, няспляжаных пакуль лясоў. Тут жа, у Мінску, незлічоная россып яркіх ліхтароў, цуг машын, падсветка вельках будынін, зіхатлівая рэклама і людзі: дзесяткі, сотні постацяў. Маладых, прыгожых дзяўчат і хлопцаў. Састарэлых зусім не бачна. Яны, відаць, у сваіх кватэрках люляюць змучаныя косці і целы. Так, начное жыццё для моладзі, менавіта яны цяпер гаспадары горада. Кацярыне прыемна разглядваць твары прахожых, іх лёгкую летнюю вопратку, спыняць позірк на імклівых машынах, на дрэвах, якія анікалечкі не падобныя да тых, што растуць каля замка, паўз былое азярцо і ў вынішчаным ужо садзе.

«Як прыгожа, Уладарка ты мая!» — Кацярына туліцца плячамі да бетоннай сцяны будыніны. Тут жа, недалёчка, і выхад-праём з-пад зямлі. Сюды групкамі, па некалькі чалавек, адзіночна падымаюцца і спускаюцца гарадчукі. Паўсюдна чуецца вясёлая гамана, рогат маладзёнаў. У руках многіх кветкі і бутэлькі з нейкім пітвом. У першыя хвіліны князёўна адчувае сябе быццам у чароўным сне, яе ахоплівае спалох, што праз імгненне прачнецца, і ўсё знікне, нічога не будзе, акрамя цаглянa-каменных развалін замка, шэпту ветра ў травах і папісквання кажаноў. Але вось нехта з прахожых ненарокам наступіў ёй на босыя пальцы нагі. Яна войкнула і акінула сябе позіркам.

«Які сорам! Я ж голая зусім. Дзіўна, але ніхто на гэта не звяртае ніякай увагі. Можа, яны проста не бачаць мяне? Такое выключана. Я ж ужо не здань, не прывід, а з крыві і плоці. Тут, хутчэй за ўсё, людзі прывыклі да розных нечаканасцяў. Яно і добра. Але ж трэба не выдзяляцца дужа», — Кацярына прыгледзелася да стройнай дзяўчыны з распушчанымі па плячах русявымі валасамі. Яна быццам не ішла, а ляцела, не кранаючыся басаножкамі тратуара. Прыгожая, кідкая сукеначка цесна аблягала маладое пругкае цела. На шыі паблёскваў у святле ліхтароў залаты ланцужок-змейка з кулонамі.

«Яна адной камплекцыі са мною. Тое, што трэба. Хачу такое ж адзенне. — І вось Кацярына ўжо быццам двайнік дзяўчыны, якая прайшла міма. На князёўне такая ж сукенка, а на нагах басаножкі. Доўгую вытанчаную шыю ўпрыгожвае ланцужок з кулонам. — Цяпер я нічым не адрозніваюся ад іншых мадмазэляў. Праўду гаварыла Поўня, што захачу — тое і будзе». Кацярына адштурхнулася локцем ад сцяны і пакрочыла разам з няспешным натоўпам па шырокім і гладкім тратуары. Паўз тралейбусных і аўтобусных супынкаў, мінала вялізныя асветленыя вітрыны, дзе сталі нязрушныя манекены ў прыгожай вопратцы, слізгала вачыма па гастранамічнай бутафорыі за шклом, запавольвала хаду каля кіёскаў-шапікаў з мноствам пакункаў, бутэлечак, бліскучых абгортак на палічках. Для чаго ўсё гэта прызначалася, князёўна не ведала, а калі пашчырасці, то і не хацела ведаць. Стаяць, ляжаць незразумелыя рэчы, ну і трасца на іх. Ёй нічога зараз пакуль не патрэбна. А калі будзе неабходнасць хоць у нечым, без чаго аніяк нельга, то нарадзіцца само сабою ў галаве веданне, бо гэта неразлучна з яе сутнасцю.

— Прабачце, вы не падкажаце, як праехаць на вуліцу Казлова, — перад

Кацярынай стаяў прыгожы кучаравы хлопец, ці не яе аднагодак. У яго вачах затоена скакалі хітраватыя бліскукі-зайчыкі. Князёўна, адступіўшы паўкроку, акінула маладзёна цёплым позіркам, прыязна ўсміхнулася і адмоўна хітнула галавою.

— Вы не мясцовая? — паспрабаваў завязаць гаворку назола. — Я напраўду не ведаю, як патрапіць на вуліцу Казлова. Зжальцеся, прыгажуня, над небаракам. А то, заблудзіўшыся, згіну ў гэтым горадзе. Няўжо вам не шкода будзе мяне? Вы ж, я бачу, добрая, не кажучы, што выглядаеце зусім незямною. З якой галактыкі спусціліся, каб ашчаслівіць сустрэчай? Скажыце хоць слоўца, — хлопец так пяшчотна, далікатна агортваў Кацярыну позіркам, што ў яе, быццам пасля доўгага бегу, затрапятала сэрца, а дыханне гатовае было вось-вось перарвацца.

«Гэта не тваё», — прагучаў у вушах голас Поўні. Князёўна ўрэшце апрытомнела, стрэсла з сябе чароўную ласкавасць позірку незнаёмца і, крышку схіліўшы галаву набок, прыжмурыўшы дужкі броваў, хмурна звёўшы іх да пераносся, абмінула, абышла разгубленага заляцалу. Хоць ёй і карцела азірнуцца, краёчкам вока пабачыць упадабаны твар, шырокія плечы незнаёмца, але ж у вушах усё яшчэ не сціхаў голас: «Гэта не тваё Не тваё гэта». І Кацярына няспешна крочыла ўперад. Нечаканае насланнё-захапленне знікла, выпарылася, не пакінуўшы ў памяці нават малюсенькага знака-згадкі.

Цяпер яна прагульвалася, здаецца, без усялякай мэты. Ды і ад пачатку не было ў Кацярыны ніякага плану. Гэта так ёй здавалася, а ногі самі ведалі, куды прывесці князёўну.

«У Мінску семдзесят дзве тысячы ліхтароў. Таму так і светла на вуліцах. Людзі не баяцца гуляць, бо няма непрагляднай цямрэчы. А зорак на небе зусім не бачна, іх быццам і не існуе. Неяк ненатуральна гэта. Але, адкуль я ведаю пра колькасць ліхтароў? — паненка здзівілася сама сабе. — А ўрэшце, якая розніца? Не заўсёды ж і не для ўсяго знаходзім тлумачэнне. Я нават і Поўні не бачу, але ж гэта не значыць, што яна пакінула мяне без прыгляду. Чую ейны голас, таму што ўвесь час пад патранажам маёй начной маці. Вось адкуль веданне і ўпэўненасць, бясстрашша і ўнутраны спакой. Усё ж, як добра жыць сярод людзей. Проста жыць: бачыць, чуць, дыхаць, усміхацца. Зусім не хочацца ўспамінаць сцвярджэння вялікіх асоб пра тое, быццам няма жыцця і няма смерці, няма дня і не існуе ночы. Няма ўвогуле такога паняцця, як час. Чалавек самадастатковы. Лухта ўсё! Я шчаслівая, бо жыву!» — Кацярына спынілася каля прыгожага двухпавярховага будынка. Калі ж паправўдзе, то не сама спынілася, а ногі, быццам укапаныя слупкі, прысталі да тратуара — і ні з месца. Рознакаляровая ілюмінацыя за двума, на паўсценны, вокнамі залівала прыцягальным россыпам фарбаў усю прастору перад начным клубам, нават паблісквала на лістоце далекаватых ад будынка кустоў. І музыка. Дзіўная музыка. Ёй было цесна за сценамі, таму і вырывалася на вуліцу. Кацярына ніколі яшчэ не чула такой гармоніі гукаў, ад якой аж млела, а ў глыбіні вачэй, у самым мозгу, яна ўбачыла казачны феерверк, як некалі ў Парыжы, калі была там з бацькам Ладыславам. Князёўна нават успомніла дзень — першага траўня французы адзначалі свята Ландыша. Гэта сімвал шчасця для жыхароў набярэжных Сены. І вось цяпер гэта радаснае адчуванне ўсплыло ў памяці паненкі перад мінскім начным клубам «Тунель». Ва ўсялякім разе так сведчылі метровыя зіхатлівыя літары над уваходам. Надзіва прыступкі перад шклянымі дзвярыма былі пустыя. Ніводнага чалавека. Кацярына падышла да бліжэйшага ад уваходу акна, зірнула ў прыцемненасць першага паверха. Звонкі акіян святла, а ўсярэдзіне паўзмрок: ненавязлівы, нават лагодна-пяшчотны. Паўз край, бліжэй да вялізных акон-вітрын, згабныя круглыя столікі з пузатымі, як бочачкі, свечкамі, а ў гарлачыках, якія і ў ранейшую бытнасць князёўны, рабілі ганчары, стаяць невялікія букецікі кветак. У глыбіні залы, на свабодным пятачку, танчыла моладзь, якой было няшмат, з паўтара дзесятка. Кацярына заўважыла ў дальнім кутку вольны столік з адзінокай свечкай.

Князёўна прыплюснула вочы, выдыхнула з лёгкіх усё да рэшты паветра і, ссутулена ўвагнуўшы плечы, нябачна праціснулася праз аконнае шкло. Там, дзе і мошка разбілася б ушчэнт, паненка без напругі, як праз ваду, прайшла ў залу начнога клуба...

*Твор поўнасцю друкуецца ў часопісе "Маладосць", № 2, 2003 г.

ПАМЯЦЬ

# «ЧАЛАВЕК НАРАДЖАЕЦЦА ЗОРКАЮ...»



Мінула сорак дзён, як пайшоў з жыцця Анатоль Канапелька. Выдатны педагог, якога, без перабольшання, ведае ўся філалагічная, настаўніцкая Віцебшчына, актыўны грамадскі дзеяч, тонкі, чуйны паэт з адметным голасам, надзейны сябар.

Шчодрасць душы ў ацэнцы творчага набытку калегі-літаратара была адною з ягоных рысаў. Нездарма ж, рыхтуючы для публікацыі ў абласной газеце "Народнае слова" ў "Анталогіі беларускай паэзіі" лепшыя вершы паэтаў прыдзвінскага краю, гэтак шчыраваў пасля заняткаў ва універсітэце над чужымі творамі, аналізаваў іх, пісаў уступныя артыкулы. Рабіў гэта, як заўсёды, далікатна, з адказнасцю за прамоўленае. Набліжалася да фінішу карпатлівая праца, і ўжо калегі падумвалі пра тое, каб падрыхтаваць сябру добры сюрпрыз — напісаць у тую ж анталогію пра яго. Як часта здараецца ў нашым затлумленым клопатамі жыцці, — не паспелі.

Анатоль Мікалаевіч Канапелька нарадзіўся 16 лістапада 1939 года ў мястэчку Расоны. Вучыўся ў 7-й сярэдняй школе г. Полацка, пазней — на філалагічным факультэце Магілёўскага педінстытута. З першымі літаратурнымі творамі выступіў у 1955 годзе. Яго вершы друкаваліся ў "Полымі", "Маладосці", "Беларусі", "Работніцы і сялянцы", "Бярозцы", "Звяздзе", "Чырвонай змене", іншых перыядычных выданнях.

Першая кніжка паэта "Зямная сімфонія" пабачыла свет у 1966 годзе. Другая — "Сустрэчы" — у 1979, трэцяя, з рамантычнаю назваю "Музыка лістапада" — у 1999. Анатоль Мікалаевіч шмат перакладаў: з польскай мовы — Я. Баршчэўскага і Ладу-Заблоцкага, з рускай — паэтаў Смаленшчыны, вершы А. Пушкіна для спектакля коласаўскага тэатра "Руслан і Людміла", п'есу А. Астроўскага "Праўда добра, а шчасце — лепш".

Маючы добры літаратурны густ, пісаў шчырыя, душэўныя вершы, прасякнутыя любоўю да радзімы і вераю ў яе лепшую будучыню. Цяжка перажываў праявы манкуртства і нацыянальнага нігілізму, чэрствасці. Любіў тэатр і жонку Святлану. Такі быў...

Усе, хто сустракаўся з Анатолем Канапелькам за дзень-два да яго раптоўнага зыходу, аднадушна адзначаюць ягоны добры настрой, аптымізм, бадзёрасць духу. Напярэдадні літфондаўскага сходу сядзелі з ім удвух у аддзяленні, жартавалі, абмяркоўвалі штосьці. Як ніколі быў жыццярадасны, як заўжды — ветлівы, чалавечны. Такім для ўсіх, што тэлефанавалі, даведаўшыся пасля горкую навіну, застаўся ў памяці. Такім назаўсёды застанецца — увасабленнем іскрыстае дабрыні, што неаднойчы ўскалыхне ў душы чыстае і светлае, адметнага таленту, што, прарошы ў душах нашчадкаў, абудзіць да жыцця нават у самым зняверыным сэрцы гожы парастак спагадлівасці і любові.

**Франц СІЎКО, сакратар Віцебскага абласнога аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў**

**Калектыў Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы выказвае глыбокае спачуванне прафесару, адданаму купалазнаўцу, прэзідэнту міжнароднага фонду Янкі Купалы РАГОЙШУ Вячаславу Пятровічу з прычыны напаткаўшага яго вялікага гора — смерці матулі.**

УРАЖАННЕ

# НАТАЛІЦЬ ДУШУ

Прыгадваецца другі нацыянальны фестываль песні і паэзіі "Маладзечна-94". Праграма свята была надзіва змястоўнай і яркай, дзякуючы высокаму прафесійнаму майстэрству Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі і яго мастацкага кіраўніка Міхаіла Фінберга. Акрамя конкурсу маладых выканаўцаў вялікую ўвагу прыцягнуў канцэрт сучаснай беларускай песні.

Разам з творамі такіх прызнаных майстроў паэтычнага жанру, як Ніл Гілевіч, Уладзімір Карызна, Генадзь Бураўкін, Уладзімір Някляеў, Леанід Дранько-Майсюк і іхніх маладзейшых калег, асабліва запалі ў душу шчырыя і меладычныя песні паэта Уладзіміра Пецюкевіча. Вакальны дуэт Іны Афанасьевай і Валерыя Дайнекі свэтлом "Зараніцаў" азарыў Маладзечна адкрыццём аўтарскага дуэта Дзмітрыя Даўгалёва і Уладзіміра Пецюкевіча.

Забягаючы наперад, прыгадаю, што на адным з апошніх міжнародных фестываляў "Славянскі базар" у Віцебску песню "Зараніцы"адзначыў славуты французскі кампазітар Мішэль Легран. А беларуская спявачка Ірына Дарафеева з "Баладай" на вуснах пакарыла сэрцы слухачоў і членаў журы, заваяваўшы першую прэмію на конкурсе маладых выканаўцаў...

Вытокі песні Уладзіміра Пецюкевіча трэба шукаць на яго роднай Браслаўшчыне. Гэты маляўнічы азёрны край натхніў на творчасць многіх паэтаў і кампазітараў. Самымі светлымі, самымі шчымлівымі ўспамінамі адгукаюцца юнацкія вёсны ў сэрцы паэта.

*Спалынела сцежка там,*
*дзе ты гуляла,*
*Зарасло азерца там, дзе ты плыла.*
*Там, дзе мроі-казкі вёсламі люляла,*
*Там, дзе самай вабнай кветкаю цвіла.*

*Кажуць, ты ўзнялася чайкаю адлётнай,*
*Позіркам самотным далеч абняла.*
*А мне ўсё здаецца: ты ля хаты роднай.*
*Адцвісці так рана кветка не магла.*

*Ля крыніцы чыстай свеціцца надзея:*
*Тут я адшукаю след жаданы твой.*
*Дзе ты, адгукніся, белая лілея,*
*Супакой мне сэрца, дай вады жывой!*

*— Белая лілея! — азярына кліча.*
*— Белая лілея! — журыцца зямля.*
*Белая лілея, дзе ты, чараўніца?*
*Белая лілея — любая мая.*

Па сваёй эмацыянальнай насычанасці, сваёй юнацкай самаадданасці "Белая лілея" Уладзіміра Пецюкевіча вельмі блізкая да "Алесі" Аркадзя Куляшова. Нават па мастацкім увасабленні. Адчуваеце?.. Тут: "ты ўзнялася чайкаю адлётнай, позіркам самотным далеч абняла". Там: "Стаю на ростанях былых, а з паднябесся самотным жаўранкам звініць і плача май". У абодвух выпадках пачуццё выказана шчыра, пранікнёна і ўсхвалявана.

З гэтай нагоды прыгадваецца выказванне вядомага спевака і кампазітара Юрыя Антонава (дарэчы, былога выпускніка Маладзечанскага музычнага вучылішча). Мэтр расійскай эстрады сказаў: "Песня альбо адлюстроўвае стан душы, абуджае эмоцыі, альбо не". Сапраўды, з такім вызначэннем нельга не пагадзіцца.

Песні паэта Уладзіміра Пецюкевіча менавіта адлюстроўваюць стан яго душы, абуджаюць эмоцыі ў слухачоў.

Прыгадваецца яшчэ адзін эпізод. Пасля трансляцыі па беларускім радыё песні "Пажадай мне, мама!" ў выкананні Алега Сямёнава ў прамы эфір патэлефанавала расчуленая слухачка і выказала шчырую падзяку за цудоўную "народную песню". Так-так, менавіта "народную". Жанчына памылілася, напэўна, у адным: у твора ёсць аўтары (У. Пецюкевіч і Д. Даўгалёў). А вось што песня атрымала народнае прызнанне — факт неаспрэчны. Бо яна, што называецца, закранае за жывое...



*Алесь Бадак, Уладзімір Пецюкевіч і Уладзімір Мазго на фестывалі песні і паэзіі "Маладзечна-94"*

*Пажадай мне,*
*мама, пажадай мне*
*Ясных дзён і самых светлых сноў! —*
*Я іду ў нязведаныя далі*
*Вечным полем горкіх палыноў.*

*Я іду на кліч світальнай чайкі —*
*Недзе там світае ранак мой,*
*Недзе там спаткаю вечнасць бацькі,*
*Што ўзышла курганнаю гарой.*

*Недзе там, за той гарой святою,*
*Наталю душу з жывых крыніц*
*І знайду я, мама, краску-долю*
*У святле купальскіх зараніц.*

*Недзе там, за той гарой святою,*
*Я не раз згадаю твой наказ:*
*— Помні, сын: і ты, як бацька, волю*
*Заслані сабою ў грозны час!..*

*Пажадай мне, мама, пажадай мне*
*Ясных дзён і самых светлых сноў! —*
*Я іду ў нязведаныя далі*
*Вечным полем горкіх палыноў.*

Вечнае поле горкіх палыноў — гэта вобраз роднай шматпакутнай Беларусі. Дарэчы, першая запісаная на студыі песня У. Пецюкевіча называлася менавіта так: "Поле горкіх палыноў", музыку да якой напісаў кампазітар Дзмітрый Даўгалёў.

А ўсяго гэтым творчым тандэмам створана каля шасцідзесяці песень, добрая палова з якіх ужо запісана беларускімі спевакамі. Найбольш вядомыя, акрамя прыгаданых вышэй: "Гаю мой, не кліч", "А ты кажаш: вясна", "Беласнежка", "Нябесны раяль", "Навасельная", "Мілая спадарыня", "Палачаначка-князёўна"... Асобна хочацца згадаць араторыю "Зорка Палын", прэзентацыя якой паспяхова прайшла ў Палацы культуры МТЗ і Доме ветэранаў у Мінску.

На вершы Уладзіміра Пецюкевіча пішуць песні Леанід Захлеўны і Алег Елісеенкаў, Павел Яроменка і Якаў Навуменка. А музыка з ансамбля "Бяседа" Мікола Алешка — стварыў цэлы вясельны цыкл.

Сёння ў творчым набытку паэта шмат цудоўных песень: і лірычных, і патрыятычных, і жартоўных. Яны ўпрыгожваюць рэпертуар зорак беларускай эстрады і маладых выканаўцаў: Анатоля Ярмоленкі, Ядвігі Паплаўскай і Аляксандра Ціхановіча, Валерыя Дайнекі, Якава Навуменкі, Іны Афанасьевай, Алега Сямёнава, Рыгора Палішчука, Ірына Дарафеевай, Сяргея Герасімава, ансамбля "Бяседа".

А сам Уладзімір лічыць пачаткам сваёй песеннай дзейнасці шасцідзясятыя гады мінулага стагоддзя. Менавіта тады яны разам з братам Мар'янам напісалі "Песню пра Гомель", "Пад зоркай Мілавіцай", "Ясны гай". Шмат неабходных творцу ведаў даў літаратурна-музычны факультэт былога педагагічнага інстытута імя Горкага. Мелодыі многіх сваіх песень Пецюкевіч падслухаў ад роднай зямлі, звону ручая, клёкату бусла, подыху ветру...

**Уладзімір МАЗГО**

## АФІША СТУДЗЕНЯ



**Нацыянальны акадэмічны тэатр балета**
**вул. Парыжскай Камуны, 1, тэл. 234-06-66**

**24** — С. Пракоф'еў "Рамэо і Джульета"
**26 (раніца)** — А. Хачатуран "Чыпаліна"
**28, 29** — П. Чайкоўскі "Спячая прыгажуня"
**31** — А. Хачатуран "Спартак"
**Пачатак ранішніх спектакляў у 11.30, вячэрніх а 19-ай гадзіне**

**Нацыянальны акадэмічны тэатр оперы**
**вул. Парыжскай Камуны, 1, тэл. 234-10-41**

**25** — Д. Вердзі "Трубадур"
**26** — Г. Даніцэці "Лючыя дзі Ламермур"
**30** — Д. Пучыні "Багема" (прэм'ера)
**Пачатак ранішніх спектакляў у 11.30, вячэрніх а 19-ай гадзіне**

**Беларускі дзяржаўны музычны тэатр**
**вул. Мяснікова, 44, тэл.220-81-26, 220-92-54**

**24** — А. Рыбнікаў "Юнона" і "Авось", рок-опера (прэм'ера)
**25** — Л. Мінкус "Дон Кіхот", балет
**26 (раніца)** — І. Левін "Айбаліт-2002", мюзікл для дзяцей
**26** — І. Штраус "Ноч у Венецыі", аперэта
**28** — А. Штраус "Капялюш Напалеона", аперэта
**29** — І. Кальман "Прынцэса цырка", аперэта
**30** — "Галактыка кахання", музычнае шоу
**31** — Ц. Хрэннікаў "Даратэя", камічная опера
**Пачатак ранішніх спектакляў у 11.30, вячэрніх а 19-ай гадзіне**

**Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы**
**вул. Энгельса, 7, тэл.227-17-17**

**24, 29, 30** — Д. Патрык "Дзіўная місіс Сэвідж", камедыя (прэм'ера: рэжысёр — А. Гарцуеў, у галоўнай ролі — З. Белахвосцік)
**25 (раніца)** — Далецкія, М. Чарот "Ажаніцца — не журыцца", беларускія вадэвілі
**25 (вечар)** — А. Астроўскі "Лес", камедыя
**26, 27** — Я. Купала "Тутэйшыя", трагікамічныя сцэны
**31** — В. Дунін-Марцінкевіч "Ідылія", беларускія вадэвілі

**Малая сцэна**
**вул. Энгельса,12**

**25** — Д. Хуан "Дом, дзе спяць прыгажуні", японская гісторыя
**Пачатак ранішніх спектакляў у 11.30, вячэрніх а 19-ай гадзіне**

**Нацыянальны акадэмічны драматычны тэатр імя М. Горкага**
**Вул. Валадарскага,5, тэл. 220-15-41, 220-39-66**
**Вялікая сцэна**

**24** — Я. Купала "Раскіданае гняздо", драматычная гісторыя
**25** — Г. Гауптман "Перад заходам сонца", гісторыя дзіўнага кахання (прэм'ера: рэжысёр — Б. Луцэнка, у галоўнай ролі — Р. Янкоўскі)
**26** — С. Віткевіч "Вар'ят і манахіня", кароткая п'еса
**28** — А. Камю "Калігула", у стылі HARD
**29** — Ж.Ф. Рэньяр "Адзіны спадкаемца", камедыя
**30** — "Амфітрыён", інтымныя сцэны з жыцця людзей і багоў
**31** — М. Эрдман "Тэрмінова патрабуецца... "самазабойца", трагікамедыя

**Малая сцэна**

**24** — Э. Радзінскі, Ф. Дастаеўскі "Рулетка", драма
**Пачатак ранішніх спектакляў а 11-ай, вячэрніх а 19-ай гадзіне**

**Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі**
**вул. Крапоткіна, 44, тэл. 234-60-08**

**24** — В. Панін "Песні ваўка", драматычна-пластычная элегія
**25** — Х. Хелер "Гульні багоў"
**26** — А. Курэйчык "Понцій Пілат", драма (прэм'ера: рэжысёр — В. Анісенка, у галоўнай ролі — Г. Гарбук)
**28** — Я. Купала. "Адвечная песня", опера-фольк
**29, 30** — Я. Таганаў "Адэль"
**31** — А. Карэлін "Зона "Х"
**Пачатак спектакляў а 19-ай гадзіне**

**Беларускі дзяржаўны маладзёжны тэатр**
**вул. Даумана,1, тэл.289-32-62**

**24** — І. Зінгер, І. Фрыдман "Тойбеле і яе дэман", трагікамедыя
**25** — Лопэ дэ Вега "Вынаходлівая закаханая", камедыя (прэм'ера)
**26** — У. Шэкспір "Страсці ў Віндзоры", камедыя
**29** — П. О. Бамаршэ "Вар'яцкі дзень, альбо Вяселле Фігара", камедыя
**30** — Б. Шоу "Пігмаліён"
**31** — А. Астроўскі "Позняе каханне", меладрама
**Пачатак спектакляў а 19-ай гадзіне**

**Рэспубліканскі тэатр юнага гледача**
**вул. Энгельса, 26, тэл. 226-01-67, 227-39-43**

**24 (а 18-ай гадзіне)** — П. Васючэнка "Рыцар сонца"
**25 (а 14-ай гадзіне)** — П. Васючэнка "Рыцар сонца"
**26 (а 11,14, 17-ай гадзіне)** — С. Казлоў "Залатое сэрцайка"

**Беларускі дзяржаўны тэатр лялек**
**Вул. Энгельса,20, тэл. 227-05-32**

**25, 26, 28, 29 ( а 11-ай і 13-ай гадзіне)** — А. Волкаў "Чараўнік Смарагдавага горада"
**30 (а 19-ай гадзіне)** — І. Шток "Боская камедыя"
**31 ( а 19-ай гадзіне)** — Я. Гашак "Прыгоды бравага салдата Швейка"

**Тэатр-студыя кінаакцёра**
**пр. Машэрава,13, тэл. 223-08-11**

**25, 26** — С. Бартохава "Поле бітвы", камічная драма
**28, 29** — Э. дэ Філіпо "Філумэна Мартурана"
**Пачатак спектакляў а 19-ай гадзіне**

**Беларускі паэтычны тэатр аднаго акцёра "Зьніч"**
**пл. Незалежнасці, 15, тэл. 220-56-32**

**28** — "Над намі нябёсы...", творчы вечар Вольгі Іпатавай
**Пачатак спектакляў а 19-ай гадзіне**

## КІНО WEEKEND

# ПРЫСЛУХАЙЦЕСЯ ДА ЗНАКАЎ!

***Пераканана: добрае кіно трэба і неабходна глядзець толькі ў кінатэатры на вялікім экране. Звычайна, самая распаўсюджаная мізансцэна выхадных дзён — прагляд тэлевізійных перадач на канапе. Але што можа быць лепш за актыўны інтэлектуальны адпачынак у кінатэатры! Тым больш, што сёння там дэманструюцца фільмы на любы густ.***

Напрыклад, у кінатэатры "Перамога" (вул. Інтэрнацыянальная, 20) у гэты Weekend ідзе новы фільм з удзелам знакамітага галівудскага акцёра Мэла Гібсана "Знакі"(2002г.). З "Марсіянскіх хронік" Г. Уэлса ў літаратуры да галівудскага блокбастэра "Дзень незалежнасці" ў кіно іншапланецяне, лупатыя "зялёныя" чалавечкі, ўяўляліся людзям хутчэй агрэсіўнымі акупантамі, чым добрымі саюзнікамі. Вось і ў фантастычным трылеры рэжысёра М. Найт-Шьямалана прышэльцы з космасу ствараюць загадкавыя фігуры на кукурузных палях нашай планеты з мэтаю папярэдзіць людзей аб вайне. Але для былога свяшчэнніка, цяпер фермера Грэма Хеса (М. Гібсан) гэтыя дзіўныя "знакі" робяцца шляхам вяртання да веры ў Бога, якую ён страціў пасля нечаканай смерці жонкі. Стваральнікі фільма сцвярджаюць, што ўсё ў гэтым жыцці прадказана і "знакі", якія дасылае нам Гасподзь у выглядзе ці то цяжкай хваробы, ці то смерці блізкага, ці то іншапланецян мусяць прынесці ў далейшым толькі карысць, адным словам, усё — да лепшага. Ад чалавека ж патрабуецца толькі прыслухоўвацца да іх, шчыра верыць у цуды. І гэтая глыбокая, філасофская думка робіць камерцыйны кінапрадукт даволі прыстойным кінатворам, вартым увагі.

Увогуле, гледзячы "Знакі", не цяжка было заўважыць, што ў сучасных амерыканскіх фільмах ёсць свае заканамернасці. Прынамсі, ужо неаднойчы на экране адзінокія маці ці бацька з дзецьмі (абавязкова хлопчыкам і дзяўчынкай) спасцігаюць страшэнныя тайны. Напрыклад, гераіня Н. Кідман у "Іншых", што яна разам з дзецьмі — прывіды, а герой М. Гібсана — што таямнічыя знакі на іх кукурузным полі ў Пінсільваніі зрабілі злосныя "зялёныя" чалавечкі. Дарэчы, у "Знаках" М. Гібсан іграе ужо звыклую для сябе ролю ўдаўца-бацькі, які абараняе свой дом (глядзіце "Патрыёта"). Але звыклую не толькі ў кіно, а і ў жыцці таксама: знакаміты акцёр, які паходзіць з Аўстраліі, з'яўляецца бацькам сямі дзяцей... Праўда, жонка М. Гібсана, дзякуй Богу, жывая...

**В. БАРАБАНШЧЫКАВА**



*НА ЗДЫМКУ: кадр з кінафільма "Знакі"*

**Кінатэатр "Перамога": 24-26 студзеня (15.00, 17.00, 19.00, 21.00)**

## ФЕСТЫВАЛІ

***Сення і заутра ў гістарычнай мясціне Міншчыны пройдзе III Беларускі фестываль камернай музыкі "Заслаўе-2003".***



# МУЗЫКА НАШЫХ СЯДЗІБАЎ

"Музыка беларускіх сядзібаў" — так вызначылі яго тэму арганізатары (Міністэрства культуры РБ, Упраўленне культуры Мінаблвыканкама, Заслаўскі райвыканкам і Дзяржаўны канцэртны аркестр Беларусі на чале з мастацкім кіраўніком фестывалю М. Фінбергам). І сапраўды, музыка, пакладзеная ў аснову фестывальных праграм, на працягу XVIII—XIX стст., стварала самабытную аўру, культурніцкае аблічча нашых сядзібаў, суправаджала тутэйшы побыт, уплывала на мастацкія прыхільнасці, на фарміраванне густаў.

Навуковы каментатар канцэртаў, мастацтвазнаўца В. Дадзёмава заўважае, што слова "сядзіба" ў гэтым выпадку азначае не збудаванне, а культурніцкі асяродак паселішча, звязанага з мецэнацкай, асветніцкай ці творчай дзейнасцю колішніх яго ўладароў. Зрабіўшы папраўку на час, можна сказаць, што працяг (ці адраджэнне) старасвецкіх традыцый залежыць ад зацікаўленасці сённяшніх мясцовых уладаў, сучасных мецэнатаў, ад людзей, спрычыненых да развіцця працэсаў у культурніцкім жыцці. У кіраўніцтва сталічнай вобласці, ва ўладаў Заслаўя такая зацікаўленасць ёсць. А ў публікі (што пацвердзілася падчас плённай фестывальнай дзейнасці Дзяржаўнага канцэртнага) ёсць не проста цікавасць — прага да спасціжэння гісторыі, беларускай музычнай спадчыны, творчасці сучасных нашых кампазітараў ды выканаўцаў.

"Заслаўе-2003" нагадае старонкі творчасці сям'і Ельскіх, якім належала "сядзіба музаў" у Дудзічах; М. Кл. Агінскага, з імем якога звязана рамантычнае Залессе; М. Каз. Агінскага, чыя дзейнасць паспрыяла еўрапейскаму прызнанню Слоніма — асяродка прагрэсіўнай мастацкай культуры XVIII ст., В. Казлоўскага, настаўніка М. Кл. Агінскага, — яркага рупліўцы музычнага класіцызму, прадстаўленага сваімі творамі і ў культурнай спадчыне Расіі, асоба якога ўшанаваная ў гісторыі сучаснага Слаўгарада... Прагучыць і камерная музыка беларускіх кампазітараў XX ст. Сярод выканаўцаў — калектывы, што працуюць у структуры Дзяржаўнага канцэртнага аркестра, вядомыя філарманічныя артысты, паслухаць якіх змогуць не толькі заслаўскія меламаны, але і мінчукі, калі скарыстаюць паслугі чыгункі ды завітаюць у рамантычны куток, што ад сталіцы — у 30-ці хвілінах рэйкавага шляху...

**С. Б.**

## «ЗАСЛАЎЕ-2003»

**Дзіцячая школа мастацтваў**

**24 — Урачыстае адкрыццё фестывалю. Дзіцячы ансамбль старадаўняй музыкі "Брэвіс" СШ № 13 г. Мінска. Мастацкі кіраўнік П. Сурагін. Капэла "Sonorus". Мастацкі кіраўнік А. Шут. Ансамбль флейтыстаў "Сірынкс". Кіраўнік Н. Аўраменка. "Інтрада" — ансамбль трубачоў пад кіраўніцтвам М. Волкава. Камерны аркестр Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі. Кіраўнік В. Сарока. (Пачатак а 18-й гадзіне).**

**25 — Ансамбль салістаў на драўляных духавых інструментах. Кіраўнікі Б. Нічкоў, Г. Гедыльтар. Дзяржаўны камерны хор РБ пад кіраўніцтвам Н. Міхайлавай. Аркестр народных інструментаў Магілёўскай абласной філармоніі. Мастацкі кіраўнік Л. Іваноў. (Пачатак а 16-й гадзіне).**




ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА
**У 1982 годзе ўзнагароджаны ордэнам Дружбы народаў**

**ГАЛОЎНЫ РЭДАКТАР**
**Віктар ШНІП**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**

**Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА,**

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**

**Леанід ГАЛУБОВІЧ,**

**Алесь ГАЎРОН — адказны сакратар,**

**Людміла РУБЛЕЎСКАЯ,**

**Уладзімір САЛАМАХА — намеснік галоўнага рэдактара**



**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**220005, Мінск, вул. Захарава, 19**
**ТЭЛЕФОНЫ:**
**намеснік галоўнага рэдактара — 284-8525**

**АДДЗЕЛЫ:**
**публіцыстыкі — 284-8153**
**пісьмаў і грамадскай думкі — 284-7965**
**літаратурнага жыцця — 284-7965**
**крытыкі і бібліяграфіі — 284-7965**
**паэзіі і прозы — 284-7965**
**музыкі — 284-8153**
**тэатра, кіно — 284-8153**
**выяўленчага мастацтва — 284-8153**
**карэктарская — 284-8091**
**бухгалтэрыя — 284-4991**
**Тэл./факс — 284-8525**

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*

*Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*

*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79

Індэкс 63856 Накпад 1646
Нумар падпісаны ў друк 22. 01. 2003 г. у 15.00

Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Выдавец: Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і мастацтва"

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715

Заказ 180

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12